№ 39 (196) 25 верасьня 2000 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА



## Нацыя паляўнічых

*Сярод герояў Алімпіяды, на якой беларусы выйгралі ўжо 10 мэдалёў (залатты, срэбны і 8 бронзавых), – беларуская зборная па кулявой стральбе.*

*Перад стартам у Сыднэі кіраўніцтва каманды заплянавала на долю стралкоў два мэдалі. Тое, што прадэманстравалі беларускі зьвяз (12 чалавек) на чале з падпалкоўнікам Ігарам Басінскім, удвая перасягнула спадзяваньні: 1 срэбны ды 3 бронзавыя кругляшы "выбілі" Сяргей Мартынаў, Лаліта Яўглеўская ды сам Ігар. Часам беларускім егерам не ставала да п'едэсталу зусім крыху (4-е месца Анатоля Клименкі і Юлі Сіняк). Усяго нашы снайпэры "адстрэлілі" зь бюджэту краіны каля 100 тысячаў даляраў прэміяльных. Някісла! Зрэшты, яшчэ ня ўсе вышыні ўзятыя. Алімпійскае золата суайчыньнікам жонкі Лі Гарві Освальда ўзяць гэтым разам так і не ўдалося. Хоць душа знакамітага снайпэра так хварэла за нашых...*

**Богусь Біятлянёнак**




## СТУДЭНТЫ АДСТАЯЛІ МЕНСК

*Назва "Менск" фактычна ўзаконеная — упершыню пасьля 1939 году, калі Саветы памянялі беларускую Канстытуцыю*

Вышэйшы Гаспадарчы суд у асобе судзьдзі Петуховай прызнаў несапраўдным папярэджаньне, вынесенае Міністам Задзіночаньню Беларускіх Студэнтаў за выкарыстаньне беларускае назвы сталіцы, Менск, замест зрасейшчанага "Мінск", на блянках арганізацыі.

Прадстаўнік Міністэрства юстыцыі, відавочна, не чакаў такога вырашэньня справы, тым больш, што Дзяржкамітэт па архівах і справаводзтве перад паседжаньнем, як выказаўся міністэрскі юрыст, "дакладна зацьвердзіў": "Гораду з назваю "Менск" у дадзены момант на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь не існуе". Тым ня менш, палічыла судзьдзя Петухова, якая два гады таму ў аналягічнай сытуацыі вынесла рашэньне на карысьць беларускага клясычнага правапісу ў справе "Наша Ніва" супраць Дзяржкамдруку: ніводзін нарматыўны акт не забараняе ўжываньня слова "Менск".

Паводле сяброў ЗБС, гэткая ўвага да паштовага адрасу аб'яднаньня з боку Міністу выкліканая ня клопатам пра дакладнасьць афармленьня блянкаў, а дзейнасьцю ЗБС па абароне правоў студэнтаў — у прыватнасьці, па скасаваньні прымусовага разьмеркаваньня. А ўжываньне клясычнага правапісу стала толькі нагодай для таго, каб "папярэдзіць" і "напалохаць".

Прэцэдэнтнага права ў нашай краіне быццам бы не існуе. Але ж практыка паказвае: прэцэдэнт, створаны падчас справы "Нашай Нівы", на гэты раз замацоўваецца перамогаю ЗБС і не аднойчы "спрацуе" ў будучыні, калі нехта захоча працягваць змаганьне з "тарашкевіцаю".

Судзьдзя ня толькі скасавала папярэджаньне, але і абавязала Мінюст выплаціць ЗБС 52000 рублёў. Мінюст будзе абскарджваць гэтае рашэньне. Але ў паштовым адрасе Задзіночаньня, як і раней, будзе пазначаны Менск. Як і ў адрасах дзясяткаў суполак і тысячаў людзей у сталіцы. Значыць, "у дадзены момант" горад з такой назваю ў Беларусі існуе.

**Ганна Штэйнман**

Зьміцер Бартосік

## У нядзельку параненька

Беларусь — краіна некранутая і цнатлівая. Варта ад'ехаць ад сталіцы па цэнтральнай аўтамагістралі кілямэтраў дваццаць, каб пераканацца, што вялізная жывёліна, якая перабягае перад табою палатно, гэта — лось. І ўсе наступныя 200 км то лісы, то зайцы будуць нагадваць пра тое, што ты едзеш у спракаветны край, туды, дзе ў 1514-м адбылася адна з самых страшных бітваў на кантынэнце. Варожае войска страціла тут сорак тысяч забітымі. Нават па мерках XX ст. лічба неверагодная. 40 тысячаў — на адным полі, пераважна халоднай зброяй, і ў кожным выпадку — вочы ў вочы, твар у твар, меч у меч...

Згадваю 1992-гі. Я яшчэ толкам ня ведаю мовы, але ўжо пасьпеў палюбіць самы прыгожы сьцяг, пабачыў самы прыгожы ў сьвеце горад — Вільню, а галоўнае — напісаў са слоўнікам дзьве песьні па-беларуску. Зьбіваючыся й забываючы словы, прасьпяваў свае песьні перад публікай. Колькі тады было пад Воршай людзей! Памятаю, купіў значок з выяваю зоркі беларускай бардаўскай песьні Андрэя Мельнікава і пазнаёміўся з жывым Віктарам Шалкевічам, які ў гарнітуры пры гальштуку на дзікім полі глядзеўся зусім непрыступна.

...З гэтага экскурсу ў мінулае мяне вярнула Ворша. Машына ўехала ў горад. Нават яркі сонечны дзень не дадае аршанскаму сылікатна-іржаваму краявіду радасьці. Але ні ў якім іншым горадзе руіны былых кляштараў і касьцёлаў не выглядаюць такімі вечнымі й велічнымі. Нібы нязводныя доказы мінулай і будучай славы. «З машыны выходзіць страшна, а людзі тут жывуць», — філязофстваваў мой сябра. «Тут жыў і пісаў Караткевіч, — зацята заўважыў я, — і ягоныя намаганьні не прайшлі дарэмна». Акурат на сьцяне шэрага дому красаваўся надпіс: «Забі ў сабе халуя».

Што кінулася ў вочы на Крапівенскім полі сёлета — гэта колькасьць легкавікоў. За мінулыя гады дабрабыт беларускіх нацыяналістаў сапраўды падрос. Тады, у 92-м, пара чалавек на "Жыгулях" здавалася проста ўвасабленьнем эўрапейскага дастатку.

Карціна з пагорку ўражвала прыгажосьцю сьцягоў на зялёным тле легендарнага поля. Народ з навакольных вёсак і дачаў цікаўнаназіраў за рыцарскім турнірам. Рыцары біліся пад крыкі з публікі «Давай! Забі маскаля!» і «Беларусы, наперад!» Група міліцыянтаў сьціпла назірала з пагоркаў за бітвай на паляне. Я дастаў дыктафон і падышоў да капітана.

— Вы тут прысутнічаеце па доўгу службы?

— Да.

— Скажыце, а вось асабіста Вам прыемна, што людзі тут зьбіраюцца, узгадваюць сваю гісторыю?

— Прыемна.

— А калі б Вашыя дзеці былі сярод гэтых рыцараў, як бы асабіста Вы да гэтага паставіліся?

— Атрыцательна.

— Чаму?

— Па галаве сільна многа палучают. Мячамі. Цехнікі безапаснасьці мала.

Ужо зьмяркалася, калі рыцары вярталіся з рысталішчаў. Маўклівая грамада ў дасьпехах, бразгочучы кальчугамі й мячамі ў цемры, нібы здані, прайшла паўз нашае аўто. На чале атраду йшоў малады ксёндз.

Працяг на старонцы 11.

## Князь зь Менску

Князь Ежы Гедройц нарадзіўся 27 ліпеня 1906 г. у Менску. Быў высокапастаўленым урадоўцам, уплывовым журналістам, добрым афіцэрам. У верасьні 1939 году здолеў дабрацца з гінучай ІІ Рэчы Паспалітай да Румыніі, а потым на Блізкі Ўсход. Быў у 2-м Польскім Корпусе генэрала Ўладыслава Андэрса, ваяваў з гітлераўцамі ў Паўночнай Афрыцы і ў Італіі. Потым жыў у Рыме, а з 50-х гадоў і да самага канца жыцьця ў Парыжы, дакладней, пад Парыжам, у сваім улюбёным мястэчку Мэзон-Ляфіт. Памёр 15 верасьня 2000 году. Пахаваны 21 верасьня ў Мэзон-Ляфіт — згодна з сваім запаветам, у якім, між іншым, запісаў, што забараняе каму-кольвек і калі-кольвек пераносіць свой прах у Польшчу.

Гедройц быў для польскай культуры XX ст. тым самым, чым Адам Міцкевіч у XIX ст. Надаў ёй сэнс і акрэсьліў шлях. Заўважым адразу, што шлях разьвіцьця польскай культуры ў многім акрэсьлівае шляхі культураў усіх народаў колішняй Рэчы Паспалітай — летувісаў, беларусаў і ўкраінцаў. У XIX ст. рамантызм Міцкевіча рашучым чынам паўплываў на паўстаньне нацыянальна-вызвольных рухаў на нашым абшары. У XX ст. рэалізм Гедройца мае беспасярэднае дачыненьне да кшталтаваньня польскай і іншых інтэлектуальных элітаў, без паўстаньня іх цяжка было б уявіць упадак камуністычных рэжымаў у нашай частцы Эўропы.

На працягу дзесяцігодзьдзяў "Культура" была ня толькі найлепшым польскім выданьнем. Гэта быў найвялікшы маральны аўтарытэт для літаратараў, гісторыкаў, палітыкаў. Незалежна ад іхных поглядаў. Бо Ежы Гедройць перадусім выкрываў не "ідэйныя памылкі", а невуцтва, ляноту розуму, тупасьць сэрца.

Працяг на старонцы 8.

тыдзень нашага жыцьця

# Выбараў ня будзе

Хто хоча азнаёміцца з дасягненьнямі нашай сыстэмы сярэдняй, сярэдняй спэцыяльнай і вышэйшай адукацыі, можа паглядзець выступленьні кандыдатаў у дэпутаты на БТ.

Восеньскія выбары – сапраўдная рэпэтыцыя прэзыдэнцкіх наступнага году. Дык можна зь вялікай доляй упэўненасьці сказаць, што выбараў-2001 ня будзе. Выбаркам зарэгіструе толькі тых прэтэндэнтаў, якія ня будуць уяўляць рэальнай небясьпекі для кандыдата №1 – Калякіна, Пазьняка, мо Чыгіра і Фядуту з Абрамавай, але знойдзе парушэньні ў афармленьні падпісных лістоў Гайдукевіча, Домаша або Вячоркі – усіх, хто можа або выйграць, або прынамсі сур'ёзна падважыць ідэалягічны падмурак улады. Лукашэнка – ён вам не Мілошавіч, каб гуляць у гульні.

Пры адсутнасьці выбараў краіну зьмяняюць культура, прэса і вуліца. Маршы Свабоды, чарговы зь якіх адбудзецца 1 кастрычніка, атрымліваюцца гістарычна больш значнымі і за цырк на БТ, і за кампанію байкоту, актывісты якой на гэтым тыдні выйшлі на вуліцы ва ўсёй краіне. Маршы Свабоды – гэта ня толькі гістарычнае сьведчаньне народнае волі, ня толькі досьвед пратэсту і дзеяньня, але і рэальная трэніроўка палітычнае тактыкі, так бы мовіць, *sur le terrain*. Арганізатары Маршу мусяць на месцы, апэратыўна, вырашаць, *куды весьці народ*, і вучыцца, *як весьці народ*. А народ бачыць, хто зь лідэраў чаго варты.

У Берасьці памёр архіяпіскап Берасьцейскі і Кобрынскі Канстанцін. Яму было 88 гадоў, і ён быў жывой традыцыяй няскоранага савецкай праваслаўя, беларускага па сваім духу, літоўскага па паходжаньні і ўніяцкага па памяці. Ён выйшаў з палескай глушы, закончыў сэмінарыю ў Вільні. Ад 1934 году сьвятараваў у сябе на Піншчыне, з 1944 па 1945 год быў зь сям'ёй у лягеры ў Аўстрыі. Пасля таго як памерла ягоная жонка, пастрыгся ў манахі ў Жыровіцах. 10 гадоў таму ён, тады япіскап Пінскі, падаў прашэньне, каб «пайсьці на спачын», аднак сынод царквы папрасіў яго працягваць службу. Ён кіраваў Берасьцейскай япархіяй, не заглыбляючыся ў сьвецкія і будзённыя справы. Памёр у рабочым кабінэце 19 верасьня, за два дні да Нараджэньня Багародзіцы і сьвята Менскага абраза Божай маці.

21 верасьня хрысьціяне адзначылі 500-годзьдзе аб'яўленьня абраза Божай Маці на водах Сьвіслачы. Згодна з паданьнем, абраз быў напісаны эвангелістам Лукою ў I ст. У 988 г. ён быў уручаны рускаму князю Ўладзімеру. Абраз захоўваўся ў Дзесяцціннай царкве Кіева, перажыў пажары 1242 і 1482 г. і ў 1500 г. апынуўся ў Менску, пацьвярджаючы сваім зьяўленьнем, што цэнтар "рускае царквы" перамясьціўся з Украіны ў сэрца Вялікага Княства. Летапісец сьведчыць, што сьвяты абраз «ці то па вадзе, ці то процi вады дзіўным чынам або анёламі перанесены да Менску, на рацэ Сьвіслачы пад замкам паўстаў». Знайшлі абраз быццам бы па свячэньні, якое ішло ад яго, і перанесьлі ў царкву Нараджэньня Найсьвяцейшай Багародзіцы ў Ніжнім замку. Пасьля пажару ў царкве ў 1635 г. абраз апынуўся ў новай базыльянскай бажніцы, пабудаванай на месцы драўлянае праваслаўнай, асьвячанай у гонар Сьвятога Духа. З канца XVIII ст. і да 1935 г. абраз знаходзіўся ў Петрапаўлаўскім саборы, пакуль камуністы не адправілі яго ў краязнаўчы музэй. Нацысты, прыйшоўшы, у 1941 годзе дазволілі адрэстаўраваць абраз і перадаць яго назад у Жоўтую царкву, а пасьля яе закрыцьця ў 1945 годзе ён вярнуўся ў Сьвята-Духаву катэдру, дзе знаходзіцца дагэтуль.

Ля Менску, між Бараўлянамі і Раўбічамі, утвораны новы заказьнік. Тутака, на горах, растуць два дзясяткі расьлінаў, унесеных у Чырвоную кнігу, і вядуцца зялёны дзяцел і шэры саракуш. Яшчэ адзін заказьнік пад назваю Смычок ствараецца цяпер у міжрэччы Бярэзіны і Дняпра. Эколягі праектуюць яшчэ дзясятак заказьнікаў, сярод іх заказьнікі Котра ў Шчучынскім і Кляйіца ў Ашмянскім раёнах Гарадзеншчыны. Абодва яны прылягаюць да літоўскіх запаведнікаў.

Ночы робяцца ўсё халаднейшыя, часьцей пад ранак бярэцца на мароз. Звозячы гародніну з загонаў, будзьце асьцярожныя: гадзюкі і вужы шукаюць сабе цяплейшых і сушэйшых схованак на зіму і часьцей завітваюць на гароды і падворкі.

**Б.Т.**

пазытывы

# Наша і ня наша

*Даўнейшыя людзі былі ня надта пісьменныя, дзеля таго мусілі ведаць і выконваць запаветы сваіх дзядоў. Вось, прыкладам, зямля. Гэта — мая. Тая – суседава. Далей — людзей з іншай вёскі ці мястэчка. А там, недзе, ужо іншы край, а ў ім ня нашыя ожо людзі. І зямля ня нашая, і іншы звычай і закон. Бо выкладзеныя яны ня нашай моваю. Нам тое не патрэбнае.*

*Бралі ў адпаведны дзень каторыя найстарэйшыя ды найразумнейшыя дзяды добрых колькі хлапчукоў, вялі да мяжы і давалі там ім, бяз злосьці, але ня жартам, бізуноў, каб, покуль жывуць, памяталі, дзе сваё, а дзе не сваё.*

22.09 у 7.39 БелТА паведаміла, што з 1 кастрычніка мы будзем мець мытны кантроль на мяжы з Расеяй, а тавары з трэціх краінаў, што ідуць праз Расею, мусяць праходзіць мытнае афармленьне. Што здарылася і чаму таго раней не было?

Расея, зь якой Беларусь знаходзіцца ў мытным саюзе, з сакавіка пачала спаганяць грошы зь беларускіх нэгацыянтаў, якія везьлі ў Расею тавары з трэціх краінаў. А наш урад, баючыся нанесьці шкоду "інтэграцыі", гэткага загаду ўсё не даваў. У выніку Беларусь страціла за апошнія паўгоду 30 мільярдаў рублёў на таварах, выробленых у трэціх краінах, увезеных у Беларусь праз непразрыстую мяжу і прададзеных тутака. Гэта калі не лічыць тых стратаў, якія наша краіна нясе ад удзелу ў мытным саюзе ўвогуле.

То бок, з кішэні ў кожнага паважанага чытача сьцягнулі 3000 дэнамінаваных рублёў. Чаму ніхто за гэта не адкажа – іншае пытаньне. Расея, як высьветлілася, саступаць не зьбіраецца. Мусіў урэшце заварушыцца і беларускі бюракратычны мэханізм.

Памежны слуп назад укопваць ня будуць, а мытны надгляд тавараў, што паступаюць з Расеі ў Беларусь, будзе цяпер ажыцьцяўляцца цалкам афіцыйна. На тым Рада нашых Міністраў пасьпяхова завяршылася. Забыліся, яны, праўда, унесьці дзьве важныя прапановы. Па-першае, вынесьці падзяку старэйшаму брату за навуку, як пра інтарэс сваёй дзяржавы трэба дбаць. Па-другое, прапанаваць закон, каб старыя дзяды правозілі новаабранага беларускага прэзыдэнта па ўсёй мяжы ды ўвальвалі яму бярозавай кашы, каб ведаў, дзе наша.

**Міхал Залескі**



IREX-PROMEDIA

Мікола Статкевіч паказвае разьбітую тэхніку ў сядзібе Грамады

# Яміна пад тваімі нагамі

## *У краіне існуе нейкая магутная сіла, якая стаіць па-над міліцыяй і законам*

Алесь Кебік

21 верасьня ў 22.40 на менскую штаб-кватэру Народнай Грамады быў зьдзейсьнены напад. Злачынцы пранiклі ў памяшканьне эсдэкаў на праспэкце Скарыны і, пагражаючы пісталетам, паклалі прысутных на падлогу, абрэзалі тэлефонныя лініі, ускрылі сэйф і забралі партыйную касу, вынялі з кампутараў вінчэстэры, захапілі партыйную дакумэнтацыю, пасьля чаго бесьперашкодна зьніклі зь месца злачынства. Выкліканая міліцыя ўзбудзіла крымінальную справу.

Варта згадаць, што налёт на офіс Народнае Грамады — *чарговы* ў шэрагу падобных злачынстваў за апошнія гады. Прыгадаем налёты на штаб-кватэры праваабарончага цэнтру "Вясна-96", Гельсынскага камітэту, на рэдакцыі незалежных газэт. З удзелам міліцыі, без удзелу міліцыі, з частковым удзелам міліцыі... Вінаватыя ня знойдзеныя і не пакараныя. Абсалютна гэтак сама, як у выпадках са зьнікненьнем няўгодных уладзе людзей. Ніводная з гэтых справаў не раскрытая, вінаватыя ня выяўленыя.

На прэс-канфэрэнцыі пасьля налёту на штаб эсдэкаў в.а. міністра ўнутраных справаў Удовікаў прывёў столькі вэрсіяў здарэньня, што стала ясна — міліцыя пачуваецца бездапаможнай, дакладней, наўмысна спаралізаванай у гэтай справе. Гэтаксама як пры разгоне нядаўняга пікету да гадавіны зьнікненьня Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага. Невядомыя ў цывільным напалі на групу пікетоўцаў — апазыцыйных палітыкаў і жанок зьніклых апазыцыянэраў, усчаўся крык на ўсю вуліцу, Лябедзька вырываўся з рук гэтых самых «невядомых»... Тымчасам міліцыя спакойна назірала за ўсім гэтым беззаконьнем.

Міліцыя назірае, міліцыя піша пратаколы, міліцыя ня ўвязваецца... У краіне існуе магутнейшая сіла, якая стаіць па-над міліцыяй і законам. Сукупнасьць фактаў наводзіць на думку пра навязьлівасьць гэтых «невядомых» і ўсёй гэтай «невядомасьці». Нехта цудоўна ведае, куды зьніклі Захаранка, Ганчар, Красоўскі, Завадзкі. І гэты самы нехта цудоўна ведае, хто там разганяў той пікет памяці зьніклых. І гэты ж самы нехта выдатна ведае, хто і навошта рабіў налёты на офісы апазыцыйных партыяў. Гэта адзін нехта. У яго свой почырк, свой стыль. Хто ён? Магчыма, які-небудзь палкоўнік Замяталін — чалавек, які ня раз дэманстраваў свае разыходжаньні з прынцыпамі чалавечнасьці і сумленьня. А магчыма, якія мафіёзі, у чыю сфэру ў Беларусі не дазволена зазіраць нікому, у тым ліку міліцыі. Можа гэта якія маскоўскія «дружкі» цяперашняга кіраўніка Беларусі, якія «вядуць» яго па жыцьці. Урэшце, гэта ня так істотна. Гэты нехта, безумоўна, Аляксандар Лукашэнка, які сканцэнтраваў у сваіх руках усю паўнату ўлады, а значыць, і паўнату адказнасьці за ўсё тайнае і яўнае, што адбываецца ў Беларусі. Гэта Лукашэнка нават у тым выпадку, калі Лукашэнка пра гэта нічога ня ведае.

Што да паспалітага беларускага чалавека, дык яму застаецца зьмірыцца з думкай, што ў закрытым грамадзтве ён або нехта зь ягоных блізкіх можа ў любы момант праваліцца пад зямлю, а дзяржава зробіць усё, каб ніхто ніколі не даведаўся — за што, у якім месцы і што ўвогуле зь ім адбылося. Гэткая патэнцыйная таямнічая яміна пад нагамі нагадвае пра дзьве небясьпечныя тэндэнцыі. Па-першае, яна ўвесь час пашыраецца. Па-другое, народ мае схільнасьць прызвычайвацца да таго, што нехта ўвесь час у яе правальваецца. Гісторыя ведае прыклады, калі ўрэшце ўся краіна ператваралася ў такую яміну, але чалавек пры гэтым маўчаў і ўхваляў палітыку ўладаў. Пакуль яміна не разьвярзалася пад ягонымі ўласнымі нагамі.

# *Падпішы добрых людзей!*

Дзякуючы нашаніўскай акцыі салідарнасьці "Падпішы сябра" 54 нашы чытачы, што ня мелі сродкаў, каб падпісацца на газэту, атрымалі падпіску на "НН". Ды ў рэдакцыі і яшчэ засталіся грошы на падпіску.

Пад час акцыі салідарнасьці выявілася, што многія ўстановы хацелі б выпісаць для сваіх бібліятэк "Нашу Ніву", але таксама ня маюць за што. Дык давайце дапаможам ім. Дасылайце нам адрасы бібліятэк, школаў, унівэрсытэтаў, больніц, турмаў, дзе ў "Нашай Ніве" маюць патрэбу. А ўсе, хто хацеў бы дапамагчы нашым небагатым установам падпіскаю, паведамце пра сябе рэдакцыі.

Наш тэлефон (017) 213-32-32, электронны адрас:

niva@user.unibel.by.

Пакажам сабе ды іншым, што незалежнае беларускае грамадзтва сапраўды існуе!

## *Падпіскаю на 25% таньней!*

"Наша Ніва" – гэта 12 старонак інфармацыі і камэнтароў пра падзеі ў Беларусі і сьвеце штотыдня, беларускі погляд на ўсё, паўнакроўная беларуская культура, не зьнявечаная савецкай, жывы голас незалежнага беларускага грамадзтва. Дык падпісвайцеся, калі ласка! Падпісны індэкс 63125. Падпіску на "НН" прымаюць на любой пошце, у любым шапіку "Белсаюздруку".

Падпіска на месяц каштуе: для менчукоў на шапік ці краму "Белсаюздруку" – 520 рублёў, звычайная на пошце ці ў "Белсаюздруку" – 672 рублі.

**Менчукі! Падпіска на шапік вельмі зручная: абыходзіцца таньней, чым купляць штотыдня, а забіраць можна хоць у панядзелак, хоць калі хочаш, нават праз месяц. Прымаюць яе амаль ва ўсіх шапіках. А каштуе яна на цэлыя 25% таньней!**

# Вячаслаў Ракіцкі: Сасноўскі застанецца ў гісторыі як Герастрат

**20 верасьня на прадстаўленьне намесьнікам міністра культуры сп.Рылаткам новага мастацкага кіраўніка тэатру "Вольная сцэна" Валер'я Анісенкі, прызначанага на пасаду замест звольненага заснавальніка тэатру Валер'я Мазынскага, трупа адказала абструкцыяй. Спачатку акторы перраконвалі сп.Анісенку адрачыся пасады і даць тэатру магчымасьць самому выбраць сабе мастацкага кіраўніка. Калі Анісенка сказаў, што не адрачэцца, акторы пачалі тупаць нагамі, пляскаць у далоні і скандаваць "Пакіньце наш тэатар!". Сп.Рылатка і Анісенка мусілі даць лататы. Падзея ня мае прэцэдэнтаў у гісторыі нашага тэатру. Ці здолеюць акторы-дысыдэнты адстаяць сваю пазыцыю, ці трупа будзе гвалтоўна разагнаная культур-чыноўнікамі? Для "НН" сытуацыю камэнтуе тэатральны крытык, радыёжурналіст і рэдактар часопіса "Спадчына" Вячаслаў Ракіцкі.**



— Я бачыў усе спэктаклі Мазынскага, ад першага да апошніх, і лічу тое, што адбылося зараз на сцэне Мазынскага, абсалютна знакавай падзеяй. Я гэтаксама ўважліва сачыў за творчасьцю сп.Анісенкі, а акторы, якія працуюць у гэтым тэатры, – мае былыя студэнты. Я вельмі добра ведаю людзей, якія разыгралі гэтую драму, у тым ліку і зь Міністэрства культуры, і таму магу пра кожнага зь іх гаварыць.

**— Якія былі сапраўдныя прычыны звальненьня В.Мазынскага з пасады мастацкага кіраўніка тэатру "Вольная сцэна"?**

— Трупа тэатру на чале з самім Мазынскім усьведамляла сябе як мастакоў нацыянальных, вольных людзей, адтуль і назоў "Вольная сцэна". Назоў прыбралі пару гадоў таму, але зь яго ўсё толькі пачалося. Акрамя спэктакляў у тэатры ладзіліся розныя імпрэзы — выставы, фэстывалі і г.д., якія выклікалі цікавасьць у нацыянальна сьвядомай інтэлігенцыі. Тэатар станавіўся адным з асяродкаў нацыянальнай эліты. Натуральна, за тэатрам сачылі, я гэта ведаю па сабе, бо была пэўная рэакцыя ў сувязі са мной, калі я там вёў канцэртную праграму фэстывалю "Нябачны мур" ці калі праводзіў прэсавую канфэрэнцыю пад час фэстывалю альтэрнатыўнага мастацтва "Менская вясна-2000". Гэта ўсё не магло ня выклікаць нэгатыўнай рэакцыі ў колах улады. Плюс да ўсяго, актораў гэтага тэатру часта бачылі на акцыях пратэсту зь бел-чырвона-белымі сьцягамі, яны ня проста ішлі ў калёнах, а яшчэ і ўдзельнічалі ў тэатралізацыі акцый. Натуральна, улады проста чакалі пэўнага моманту. З гэтага ўсё і пачалося, аднак па сутнасьці прычына значна глыбейшая.

Беларусь — практычна адзіная краіна, дзе за рэдкім выняткам няма прыватных тэатраў, альтэрнатыўных тэатраў, прыватных антрэпрызаў, дзе па-ранейшаму лічыцца нормай кіраваньне мастацтвам, а дзяржаўныя тэатры, у разуменьні чыноўнікаў ад культуры, гэта тыя, што мусяць абслугоўваць дзяржаву, дзе цэніцца ідэалягічная скіраванасьць спэктакляў. І, натуральна, мы бачым сёньня беларускі тэатар у руінах. Тэатар зьнішчаны, бо ў ім няма мастацтва. Тэатар адстаў ад новых павеваў, якія даляцелі да суседніх дзяржаваў. Наш тэатар страшна далёкі ад тэатру расейскага ці ўкраінскага, адстае на дзесяцігодзьдзі ад іх. Тэатар застаўся тыповым савецкім мастацка-ідэалягічным арганізмам. І любыя спробы нешта стварыць вольна, тым больш на грунце нацыянальнай драматургіі, не маглі падабацца ўладам. Апошнія два дзесяцігодзьдзі, зь невялікім перапынкам на канец 80-х — пачатак 90-х, палітыка дзяржавы вялася на зьнішчэньне мастацтва, у тым ліку і тэатральнага. У нас разгромленая рэжысура, вельмі нізкі ўзровень актораў, у нас на сёньня практычна не існуе драматургіі, і нават тое, што цяпер піша Дудараў — гэта кан'юнктура. У 1992 г. я быў на Сусьветным кангрэсе тэатразнаўцаў, і калі я распавядаў там сваім калегам пра тое, што ў нас ёсьць тэатар "Вольная сцэна", што галоўная мэта тэатру — стварэньне нацыянальнай драматургіі, прыцягненьне маладых драматургаў, літаратараў, актораў, рэжысэраў, стварэньне сучаснага, самабытнага беларускага тэатральнага мастацтва і што гэта ўсё фінансуе дзяржава — мне проста не давалі веры, бо нідзе нічога падобнага ня чулі. Але пасьля гэтых тэатар і па фінансаваньні, і па стаўленьні да яго апусьціцца да ўзроўню раённае нізкагатунковае трупы.

Тэатар можа разьвівацца толькі тады, калі гэта калектыў аднадумцаў. Якраз гэта ўдалося зрабіць Мазынскаму. Ядро трупы складае курс, які выпусьціў сп.Валер. Аднак акторы, я мяркую, не былі падрыхтаваныя да ідэалягічнага ціску.

**— Вы хочаце сказаць, што тэатар Мазынскага быў выняткам з татальна нізкага ўзроўню беларускага драматургічнага мастацтва?**

— Па вялікім рахунку, я не магу сказаць, што мастацкі ўзровень гэтае трупы значна вышэйшы, чымсьці ў іншых. Гэты тэатар быў выняткам у тым, што ён быў жывы, што спэктаклі нараджаліся ў жывой творчасьці, што тэатар захоўваў атмасфэру студыйнасьці. І хоць да спэктакляў можна было высунуць мастацкія прэтэнзіі, заўсёды гэты спэктакль быў цікавы, бо мастацтва нараджалася на вачах, гэта было жывое мастацтва, шчырае, чаго я ня бачу, напрыклад, у Купалаўскім, — на мой погляд, абсалютна мёртвы тэатар, беспэрспэктыўны.

**— "Жывы" — ці гэта дакладная характарыстыка?..**

— Абсалютна дакладная характарыстыка. Калі ўзьніклі першыя авангардныя тэатры, адзін зь лідэраў авангарднага тэатральнага мастацтва ў ЗША так і называўся — "Living Theater". У сучасным тэатразнаўстве пад тэрмінам "жывы" тэатар разумееца тэатар студыйны, які экспэрымэнтуе, шукае, працуе студыйна, а не рэпэртуарна, згодна зь нейкімі плянамі. Таму на "Вольнай сцэне" заўсёды былі нечаканасьці, як стаўся нечаканасьцю спэктакль, што раззлаваў уладу — "Нечаканы ўзьлёт Артура Ўі, які можна было спыніць" паводле Брэхта.

**— Многія лічаць пастаноўкі "Вольнай сцэны", у тым ліку і пад кіраўніцтвам Мазынскага, безгустоўнымі. Ці ёсьць у гэтых словах праўда?**

— "Вольная сцэна" стваралася як лябараторыя. На ёй экспэрымэнтавалі. За Лукашэнкі ў тэатру спачатку адабралі назоў, пасьля характарыстыку "тэатар-лябараторыя" і пачалі да яго ставіцца як да звычайнага тэатру. Каб Мазынскі ведаў, што ад яго патрабуюць такіх жа вынікаў, як ад Коласаўскага ці Купалаўскага, паверце, гэты тэатар з гэтымі ж акторамі меў бы іншыя дасягненьні, але перад ім стаяла іншая задача — экспэрымэнт, вырошчваньне нацыянальнай драматургіі, якой мы ня маем. Таму размовы пра мастацкую вартасьць я лічу падменай паняцьцяў, за якую хапаецца ўлада. Калі Мазынскі ставіць клясіку, я катэгарычна не пагаджуся, што ў спэктаклях нізкі ўзровень — узяць таго ж Брэхта. Калі ж Мазынскі ставіць п'есы хлопчыкаў, якія толькі спрабуюць знайсьці сябе ў драматургіі, — дык абсурдна тады патрабаваць клясычных пастановак. І таму я кажу, што гэта палітычная расправа, сьвядомыя антыбеларускія крокі.

Ды нават калі б Мазынскі і выклікаў нараканьні паводле мастацкай вартасьці сваёй творчасьці — гэта ўсё роўна не было б аргумэнтам для звальненьня з той простай прычыны, што сёньня ў Беларусі ўвогуле разгромленая рэжысура. Раеўскі і Луцэнка ўзначальваюць свае тэатры, пачынаючы з 70-х. Гэта абсурдная сытуацыя, якая можа быць уласьцівая толькі для тэатраў савецкай эпохі. Мікалай Пінігін эміграваў, маладым рэжысэрам не даюць працы. І Мазынскі на гэтым фоне выглядае вельмі прыстойна, ён прыцягнуў дзясяткі таленавітых людзей у драматургію. Можна мець прэтэнзіі, але здымаць з такой фармулёўкай — гэта няправільнае разуменьне культуры. Думаю, сп.Сасноўскі застанецца ў гісторыі як Герастрат, сп.Рылатка — як цэрбэр, а Мазынскі ўсё ж застанецца як рэжысэр, які меў фантастычныя дасягненьні ў нацыянальнай драматургіі ў тэатры Якуба Коласа.

**— Хто, па-Вашаму, выступіў ініцыятарам зьняцьця сп.Мазынскага?**

— Міністар культуры Сасноўскі, на мой погляд, асоба абсалютна несамастойная, як не самастойны ў гэтай краіне ніводзін міністар. Тым больш, што гэта чалавек, які ў дамністэрскім жыцьці ня меў ніякага дачыненьня да мастацтва. Аднак усё вырашаецца значна вышэй. На мой погляд, гэта заказ ці не з адміністрацыі прэзыдэнта.

Выканаўцам, як звычайна ў апошнія больш чым 10 гадоў, зьяўляецца сп.Рылатка. Калі дэмакраты прыйдуць да ўлады, а гэта будзе, бо нельга абысьці лёгіку гісторыі, я не зьдзіўлюся, калі Ўладзімер Рылатка будзе гэтаксама цкаваць іншадумцаў, толькі ўжо будучы вялікім дэмакратам.

Анісенка зрабіў вельмі подла, бо ведаў, у якой сытуацыі ён замяняе Мазынскага і што адбываецца ў тэатры, ведаў, што трупа яго выганіць. Я ганаруся гэтай трупай, большасьць з актораў — мае студэнты, я вельмі рады, што яны сябе адчуваюць вольнымі людзьмі, і зычу ім, каб яны гэтай вольнасьці не згубілі. Гэта гістарычны выпадак — упершыню акторы адчулі сябе не прыніжаным быдлам, годна сказалі ўсё, што яны думаюць, і выгналі штрайкбрэйкера.

**— Які Ваш прагноз — што чакае "Вольную сцэну"?**

— У старажытнай Грэцыі акторам мог быць толькі вольнанароджаны чалавек. А ў нас з актораў робяць рабоў, робяць іх залежнымі: яны ж усе жабракі. За мяжой за адзін акторскі ганарар можна жыць цэлы год, а тут...

Я спадзяюся, што акторы не падпарадкуюцца міністэрству культуры і Анісенку, што яны не развальяцца і захаваюць свой жывы арганізм. Калі Анісенка ўсё ж ня сыдзе, я спадзяюся, што акторы разам з Мазынскім пакінуць тэатадзяніс носар і пачнуць усё ад пачатку. Іншага варыянту няма. Калі ж яны ўсе застануцца, я ўяўляю, што гэта будзе за тэатар — гэта будзе нейкая пачвара. Несвабодны актор, несвабодны мастак не ўяўляе для мяне ніякай цікавасьці.

**Гутарыў Андрусь Белавокі**




УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

## Бангалору ня будзе?

Тыдзень таму Віктар Івашкевіч цьвёрда казаў карэспандэнту "НН": "Першы "Марш Свабоды" паказаў волю беларусаў да актыўнага змаганьня, другі "Марш Свабоды" прадэманстраваў, што мы можам і ня біцца, а гэты пакажа, што мы можам хадзіць па цэнтральных вуліцах. 1 кастрычніка, у нядзелю, а 12-й удзельнікі "Маршу Свабоды-3" маюць сабрацца на Акадэміі Навук і рушыць да Плошчы Незалежнасьці або да Кастрычніцкай. У крайнім выпадку мітынг адбудзецца на плошчы Парыскае Камуны, але на Бангалор ня пойдзе ніхто. Гэта, бадай, адзінае, што можна сьцьвярджаць з дакладнасьцю, пакуль улады не далі дазволу на "Марш".

Цяпер, праз тыдзень, сябры аргкамітэту ўжо не выказваюць гэтак аднязначна. Паколькі ўлады настойваюць на парку ля Бангалору, Юры Хадыка, старшыня аргкамітэту, мусіць быць ухілістым: «Варыянты ў нас два: альбо мы ідзем на ня вельмі прэстыжную, але мірную маніфэстацыю, альбо – на несанкцыянаваную, якая можа быць скарыстаная рэжымам для дыскрэдытацыі апазыцыйных сілаў».

Сытуацыя абяцае стаць больш акрэсьленай сёньня, калі адбудзецца другое паседжаньне Аргкамітэту і чарговая сустрэча заяўнікаў Маршу з прадстаўнікамі ўладаў. Тое, што ў аргкамітэт Маршу ўваходзяць нават прадстаўнікі Жаночай партыі "Надзея", пасяляе ўпэўненасьць у тым, што ён пройдзе па сцэнары Маршу-2, а ня Маршу-1.

Трэці "Марш Свабоды" пройдзе пад лёзунгам "Супраць выбарчага фарсу, за свабодныя выбары". Магчыма, да яго далучацца тыя, хто ня браў удзелу ў папярэдніх акцыях – такое меркаваньне зьвязана з вынікамі разгромнай рэгістрацыі кандыдатаў у парлямэнт. У папярэдніх "Маршах Свабоды" брала ўдзел ня менш за 30 000 чалавек.

Акрамя Менску, "Маршы Свабоды" пройдуць як мінімум у 12 гарадох. Гэта адбудзецца 8 кастрычніка, заяўкі яшчэ будуць падавацца.

**Ганна Штэйнман**

## Удакладненьне

Паважаны спадар рэдактар,

у папярэднім нумары тыднёвіка "Наша Ніва" надрукаваная гутарка карэспандэнта са мною. На жаль, у гэтай публікацыі маецца адна фактычная недакладнасьць. Кандыдатамі ў дэпутаты ад БСДП зарэгістраваныя тры, а ня шэсьць сяброў партыі.

Для паўнаты карціны мушу паінфармаваць Вас, што ў сьпісе БСДП меўся 31 прэтэндэнт на дэпутацкі мандат, аднак толькі 19 зь іх фармальна былі сябрамі партыі на момант пачатку выбарчае кампаніі.

**З павагаю, Анатоль Сідарэвіч**

## спорт

### *Праўда перамагла*

Толькі праз 5 дзён пасьля спаборніцтваў цяжкаатлет Генадзь Аляшчук атрымаў сваю законную алімпійскую бронзу. У вагавай катэгорыі да 62 кг перамог харват Мікола Пэшалаў, а трое спартоўцаў, у тым ліку і беларус, якія прэтэндавалі на два астатнія месцы на п'едэстале, адужалі аднолькавую вагу – 317,5 кг у суме двух практыкаваньняў. У такіх выпадках прызэраў вызначаюць узважваньнем. Хто менш пацягне – таго й верх. Беларус апынуўся самым цяжкім, аж на 100 г пераважыўшы баўгарына Сэўдаліна Мінчэва-Анґелава... 4 дні, як пасьля прызнаўся Генадзь, ён ня мог стрымліваць сьлёзы. Алімпійскі мэдаль праслізнуў паміж пальцаў... І вось праз некалькі дзён той самы Сэўдалін Мінчаў, які заняў трэцяе месца, быў падлоўлены на допінгу. Несумленны баўгарын адразу ж быў дыскваліфікаваны, а бронзавы мэдаль праз 5 дзён пасьля спаборніцтваў законна апынуўся на шыі шчасьлівага беларуса.

### *28-я ці 14-я?*

У нядзелю Беларусь у неафіцыйным алімпійскім заліку стаяла на 28-м месцы паводле вартасьці заваяваных мэдалёў (бо мела толькі адзін залаты). Паводле ж простай колькасьці атрыманых узнагародаў (усяго 10) мы стаялі на 14-м радку. Усяго ж мэдалі ў Сыднэі завяёўвалі спартоўцы 54 краінаў. Залаты мэдаль нам прынесла Кацярына Карстэн-Хадатовіч, якая, як вядома, "радзіла рэбёнка, а ўсё грэбёт і грэбёт".

### *Монстры ракеткі*

Годна выступаюць беларускія тэнісісты. Максім Мірны ў адзіночцы выйшаў у чвэрцьфінал, перайграўшы Лейтана Г'юіта, Іржы Ванэка, Марыяна Сабалету. Трымае марку й пара Натальля Зьверава — Вольга Барабаншчыкава. Яны ў 1/8 фіналу выбілі гішпанак Аранту Санчэс-Вікарыё і Канчыту Мартынэс.

**Богусь Біятляннэнак**

## дзе варта быць

### МАЛАДЫЯ І ЦІКАВЫЯ

Дзе можна пабачыць унітаз з убудаваным тэлевізарам, праз які трансьлюецца расейскі канал ОРТ? У Палацы мастацтва. Там адчынілася выстава-конкурс "Новыя імёны". І акрамя ўнітазу ёсьць шмат цікавага. Хапае кампутарнай графікі. Узнагароджаньне пераможцаў — 28 верасьня. Працуе выстава штодзённа з 10.30 да 18.00, выходны – панядзелак. Закрыцьцё 1.10.

### КУЛЬТУРЫЗМ

Вы ведаеце, хто ў Беларусі мае найбольшыя ды найпрыгажэйшыя цягліцы? 30 верасьня ды 1 кастрычніка ў Палацы чыгуначнікаў (Чкалава, 7) Беларуская фэдэрацыя культурыстаў ладзіць кубак Беларусі. 30.09 у 16.00 – паўфінал, 1.10 у 14.00 – фінал.

### ДАЛОЎ КРЫЎДЫ

395 год таму польны гетман Ян Караль Хадкевіч перамог швэдаў пад Кірхгольмам. Гэтую слаўную гадавіну вырашылі адзначыць маладыя сацыял-дэмакраты ды аб'яднаньне "Гісторыка". 27 верасьня ў Беларускім гуманітарным ліцэі, што на Кірава, 21, а 18-й яны ладзяць вечарыну. На ёй будуць і тэатар "Зьніч" (спэктакль "Нобіль – барвяны ўладар"), і сярэднявечныя рыцары, і швэдзкі консул. Відаць, старыя крыўды забыліся.

### ФОТАГУЛЬНІ

У галерэі NOVA, што ў бібліятэцы імя Янкі Купалы, сёзон распачынаецца фотапраектам Л.Русавай ды С.Ждановіча "Гульня ў лялькі". Адкрываюць выставу 29 верасьня а 18.30. Вул.Харужай, 16 або ў Інтэрнэце: http://nova.iatp.unibel.by.

**Алесь Кудрыцкі**

### НЕ АД МІНІМАЛКІ, А АД СЯРЭДНЯГА ЗАРОБКУ

Міністар эканомікі Уладзімер Шымаў заявіў, што з кастрычніка нас чакае павышэньне мінімальнага заробку. Падрыхтаваная таксама пастанова аб адвязваньні ад мінімальнага заробку памераў усіх выплатаў, штрафаў, збораў і фіксаваных падаткаў. Усе гэтыя сплаты стануць кротныя ўжо не мінімальнаму, а сярэдняму заробку. Ёсьць падставы думаць, што пад шумок штрафы і падаткі значна павялічацца.

**Андрусь Белавокі**

### БУЛЫКА СЫХОДЗІЦЬ З "КРЫНІЦЫ"

Чытачы часопіса "Крыніца" ў разгубленасьці: ён то выходзіць, то не. Летась выйшла восем нумароў, тры зь іх — здвоеныя. У лістападзе й сьнежні часопіс не выходзіў. Сёлета зьявіўся здвоены нумар за студзень—люты, сакавіцкае "Крыніцы" чытачы не дачакаліся, потым убачылі здвоены нумар за красавік—травень. Часопіса за чэрвень ды астатнія месяцы 2000 г., мусіць, ужо ня будзе. Цяперашняя рэдактарка часопіса, паэтка Галіна Булыка, не дабіўшыся ад дзяржавы скасаваньня даўгоў часопіса, што назьбіраліся, пакуль рэдактарам быў Някляеў, стамілася хадзіць па міністэрскіх кабінэтах і, верагодна, таму падае ў адстаўку. Шанцы ўзначаліць часопіс маюць Навум Гальпяровіч і Алесь Пісарык. Сымпатыі супрацоўнікаў рэдакцыі схіляюцца на бок першага.

**Б.Т.**

### ЦАРКВА Ў АЛЬХОЎЦЫ

Айцец Павал Варановіч зь Петрапаўлаўскай царквы ў Астраўцы, якая была пабудавана тут пасьля Чарнобылю перасяленцамі з тамтэйшых мясьцінаў, пляную пачаць будаўніцтва яшчэ адной царквы ў раёне. Месцам узьвядзеньня сьвятыні абраны пасёлак Альхоўка. Звычайна заходнікі шчыруюць у цэрквах, а тут во – усходнікі.

**Мар'ян Вянгроўскі, Астравец**

### ЗАТРЫМАНЬНІ АКТЫВІСТАЎ

За раздачу ўлётак з заклікам да байкоту або ляпленьне наклеек былі за мінулы тыдзень затрыманыя: у Менску — Алесь Бяляцкі, Юры Хадыка, Алена Рашэтнікава, Сяргей Рабкевіч, Сяргей Шынкевіч, Мікола Раманаў, Сяржук Андросаў, Зьміцер Касьпяровіч, Уладзімер Арэхаў, у Гомелі — Васіль Палякоў, у Берасьці — Сяржук Грынь.

**"НН"**



Памерла Галіна Русак... У памяці паўстае невялічкі аднапавярховы дом на зацішнай вуліцы мястэчка Сомэрсэт у Нью-Джэрзы. Такі падобны да жытла паспалітых амэрыканцаў звонку і такі незвычайны, такі беларускі ўнутры. На палічках, за шклом, на сьценах — памяткі пра Радзіму: гліняныя спарышы, выцінанкі, беларускія кнігі. Тут можна было пазбыцца суму па бацькаўшчыне і ў той жа час па-сапраўднаму затужыць па ёй.

Беларуская Амэрыка, амэрыканская Беларусь...Невядомая большасьці з нас краіна, якая сягае са Старога ў Новы сьвет. Яна жыве ў карцінах Галіны Русачых, незвычайных і прыгожых, падобных да вышыўкі на сялянскай вопратцы.

Спадарыня Галіна здабыла ўсё, пра што марыць любая амэрыканка: выдатную адукацыю, прэстыжную працу ў Ратгерскім унівэрсытэце, збудавала разам з мужам Васілём дом, выгадавала дзеці. А Беларусі ўсё адно не ставала, хоць адчуваньне таго, што радзіма побач, было наўзьдзіў моцным у гэтым дамку за акіянам. Ніколі раней ня бачыў, каб нехта перажываў за нашую краіну так, як беларусы замежжа. Я гасьцяваў у сям'і Русакоў у 1995 і 96 гадох. Рэфэрэндум, Чарнобыльскі шлях, здрада, кроў на менскіх вуліцах... У доме Русакоў горыч перамешвалася з рашучасьцю, надзея межавала з адчаем. Каб нам у сэрцы хаця трохі таго болю, што сьціскаў душу Галіны Русачыхі, якая падалася ў сваё апошняе падарожжа... Дык няхай яна знойдзе тую сапраўдную Беларусь, якую заўжды шукала, краіну, якой яшчэ няма на гэтай зямлі.

**Алесь Кудрыцкі**

## Вялікая Брытанія

# Бог ці суд?

**22 верасьня Лёнданскі апэляцыйны суд вынес сьмяротны прысуд паўтарамесячнай дзяўчынцы. Інакш кажучы, ён падараваў жыцьцё яе сястры. Блытаніна тлумачыцца так: Джодзі ды Мэры (імёны зьмененыя) – сіямскія блізьняты. І калі Джодзі хутка расьце, дык Мэры дужа адстае ад яе ў разьвіцьці, бо жыве толькі таму, што злучаная целам са сваёй сястрой. Сэрцу ды лёгкім Джодзі даводзіцца працаваць у падвоеным тэмпе.**



Бацькі дзяўчынак мусілі пераехаць з Мальты ў Ангельшчыну, каб дзеці атрымалі належную мэдычную дапамогу. Манчэстэрскія дактары прыйшлі да высновы: калі сёстры застануцца злучанымі, сэрца Джодзі зможа вытрымаць ня больш за шэсьць месяцаў. Калі яно спыніцца, абедзьве дзяўчынкі памруць. Было вырашана правесьці апэрацыю, бо толькі так можна захаваць жыцьцё Джодзі. Пра выратаваньне Мэры нават не вядзецца гаворкі, бо яе цела ня здольнае існаваць самастойна.

Бацькі дзяўчынак — пераканаsuccessfulныя каталікі. На Мальце вельмі моцныя рэлігійныя традыцыі, там нават не дазваляюць легальна разводзіцца. Натуральна, бацькі адмовіліся даць згоду на апэрацыю. "Мы ня можам дазволіць, каб нашае дзіця забілі", — заявілі яны. Між тым справа дайшла да акруговага суду, які адхіліў патрабаваньне бацькоў дазволіць прыродзе ды Богу вырашаць лёс дачок. Тады бацькі падалі апэляцыю ў суд вышэйшай інстанцыі ў Лёндане – і зноў параза.

Апэрацыю прызначылі на лістапад. Але ці адбудзецца яна, пакуль невядома. Бацькі абавязкова зьвернуцца ў найвышэйшы суд Палаты Лордаў, а як прайграюць – у Міжнародны трыбунал па правох чалавека ў Страсбургу.

Неверагодная складанасьць справы відаць з аргумэнтаў, якія прыводзілі бакі на судзе. "Хіба мы можам разьдзяліць блізьнятаў так, каб гэта не было замахам на жыцьцё Мэры?" — пыталіся адвакаты бацькоў. "А ці не зьдзяйсьняе Мэры замах на жыцьцё Джодзі, спажываючы яе кроў? Ці не мае яна права адмовіцца (праз сваіх бацькоў, вядома) аддаваць сваю кроў іншаму чалавеку на выкарыстаньне?" — "Мы не павінны парушаць сьвятой таямніцы жыцьця, забіваючы чалавека", — кажуць першыя. "Але ж у адпаведнасьці з дактрынай сьвятасьці жыцьця чалавечае цела павінна быць асобным і цэласным. Варта падараваць сёстрам асобнасьць, якой іх пазбавіла прырода", — даводзяць другія.

Гэтае судовае разьбіральніцтва закранае самыя балючыя пытаньні сучаснага чалавецтва – тут можна адшукаць паралелі з вызначэньнем кошту чалавечага жыцьця, з праблемамі абортаў і эўтаназіі, правоў дзяцей ды бацькоў. Ды толькі суд і бацькі блізьнятаў, хутчэй за ўсё, не дасягнуць згоды. "Вы пастанавілі забіць Мэры", — вінавацяць бацькі суд. "Мы выратавалі Джодзі", — адказваюць судзьдзі.

Атрымліваецца, што Мэры мае права на жыцьцё, але ня мае права застацца жывая. Цяпер яна, вядома, ня можа вырашаць нічога. Цікава, што б яна зрабіла, каб была дарослым чалавекам? Хутчэй за ўсё, згадзілася выратаваць сястру. Гэта ж і ў Эвангельлі сказана, што няма чалавеку вышэйшай нагароды, як аддаць сваё жыцьцё за бліжняга. Ды толькі Мэры ўсяго шэсьць тыдняў, і яна інстынктыўна змагаецца за жыцьцё, не падазраючы ні пра суд, ні пра тэалягічна-этычныя спрэчкі.

**Алесь Кудрыцкі**



## Чэхія

# Анархісты супраць глябалізацыі

*"Інтэрбрыгада" беларускіх анархістаў паехала ў Чэхію, каб узяць удзел у масавых беспарадках пратэсту супраць глябалізацыі сусьветнай эканомікі*

26 верасьня ў Празе адкрываецца чарговае паседжаньне кіраўніцтва МВФ, у сувязі з чым у сталіцу Чэхіі рушаць праціўнікі капіталізму, каб узяць удзел у дэманстрацыях пратэсту. Прэзыдэнт Гавэл ласкава запрасіў у краіну ўсіх, хто хоча выказаць сваю нязгоду, а ўлады Прагі аддалі стадыён пад палатачны гарадок.

Як паведаміў нам сурэдактар газэты "Навінкі" Лёлік Ушкін, ужо арыштавана больш за 30 чалавек, мелі месца сутычкі з паліцыяй, найбольшая зь іх – паміж моладзьдзю, якая ехала ў цягніку з Італіі, і чэскімі памежнікамі. Падчас аналягічных дэманстрацыяў, прымеркаваных да паседжаньня Сусьветнае Гандлёвае Арганізацыі ў амэрыканскім Сыэтле на пачатку гэтага году было нават уведзенае ваеннае становішча.

Анархісты ў Празе пратэстуюць супраць таго, што нацыянальныя органы кіраваньня цяпер маюць намнога меншую ўладу у параўнаньні зь міжнароднымі карпарацыямі, інтарэсы якіх, на думку анархістаў, і прадстаўляюць МВФ і СГА. Пры гэтым ня ўлічваюцца ня толькі інтарэсы асобаў, але й цэлых краінаў. На пытаньне аб тым, наколькі праблема сусьветнае глябалізацыі закранае беларусаў, сп.Ушкін адказаў:

— Зараз на прыкладзе Ўкраіны ці Расеі мы маем цудоўны досьвед рэалізацыі плянаў Сусьветнага банку. Гэта поўны калапс інфраструктуры, перападпарадкаваньне ўсіх нацыянальных інтарэсаў карысьці заходняга капіталу. Мы ня супраць глябалізацыі, але хочам, каб яна мела плянэтарны кантэкст, каб гэта была глябалізацыя людзей, а ня банкаў. Мы пратэстуем супраць таго факту, што ў праскім паседжаньні зьбіраюцца ўдзельнічаць і прадстаўнікі беларускіх уладаў, супраць прыватызацыі многіх беларускіх прадпрыемстваў расейскім капіталам. Мы супраць таго, каб усе нацыянальныя багацьці належалі нейкім сусьветным карпарацыям, а фактычна — невядома каму, і каб рэальныя цэнтры ўлады знаходзіліся недзе за межамі краінаў, за межамі ўплыву звычайных людзей.

**Андрусь Белавокі**

Сэрбія

# Бялградзкія ўрокі

**Нейк на мітынгу лідэр БНФ Вінцук Вячорка абвясьціў, што падчас візыту ў Сэрбію ён дамовіўся пачаць спаборніцтва зь мясцовай апазыцыяй — хто раней сьпіхне свайго дыктатара. Хацелася б верыць, што ў бліжэйшыя дні беларусы прайграюць.**

Аляксей Знаткевіч

Усе папярэднія сацыялягічныя апытаньні паказвалі, што ў першым туры выбараў у Югаславіі перавага забясьпечана кандыдату ад апазыцыі Воіславу Каштуніцу. Мілошавіч адстае ад Каштуніцы амаль на 20 пунктаў. Тыя ж апытаньні сцьвярджаюць, што калі б мэр Бялграду Воіслаў Міхайлавіч, кандыдат у прэзыдэнты ад партыі Вука Драшкавіча, што не далучылася да аб'яднанай апазыцыі, зьняў сваю кандыдатуру, дык Каштуніца перамог бы ўжо у першым туры, набраўшы больш за 50% галасоў. Усё гэта нягледзячы на тое, што Чарнагорыя, адна зь дзьвюх рэспублік Фэдэрацыі, байкатуе выбары, і галасаваць там будуць толькі прыхільнікі Мілошавіча.

Апытаньні апытаньнямі, але калі гэты нумар "НН" зьявіцца ў продажы, наўрад ці сэрбскія апазыцыянэры будуць сьвяткаваць перамогу. Амаль усе аналітыкі кажуць, што Мілошавіч не зьбіраецца аддаваць уладу, якія б ні былі вынікі галасаваньня. Найбольшыя песымісты мяркуюць, што Югаславію чакае грамадзянская вайна, бо Мілошавіч у любым выпадку абвесьціць аб сваёй перамозе, і, калі апазыцыя выведзе людзей на вуліцы, загадае войску задушыць пратэсты. Камандуючы югаслаўскім войскам, генэрал Паўкавіч заявіў напярэдадні выбараў, што ваенныя гатовыя прыняць перамогу Каштуніцы. Але ён дадаў, што войска рыхтуецца спыніць правакацыі з боку ўзброеных замежных груповак, якія нібы зьбіраліся дэстабілізаваць становішча ў краіне ў дзень выбараў. Апазыцыя ж заклікала людзей выйсьці на вуліцы ў нядзелю пасьля восьмай вечара, калі зачыняцца выбарчыя ўчасткі, і чакаць абвяшчэньня вынікаў галасаваньня. Калі ў Сэрбіі рэгулярна хапаюць "замежных тэрарыстаў", якія ўвесь час ладзяць замахі на Мілошавіча, дык у гэтай сытуацыі няцяжка арганізаваць некалькі "замежных груповак". Мілошавічу сапраўды няма чаго губляць — карумпаванасьць ягонай сям'і надта вядомая ў краіне, а, уцякаючы за мяжу, можна трапіць пад Міжнародны трыбунал за ваенныя злачынствы.

NATO па-свойму рыхтавалася да выбараў. У Косаве было разьмешчана дзьве тысячы вайскоўцаў у дадатак да саракатысячнага кантынгенту KFOR, а амэрыканскі авіяносец "Джордж Вашынгтон" перавედзены з Пэрсыдзкай затокі да ўзьбярэжжа Чарнагорыі. І без таго напружанае становішча ў Чарнагорыі можа выбухнуць пасьля выбараў. Кіраўніцтва рэспублікі ўжо абвесьціла аб сваёй гатоўнасьці выйсьці з фэдэрацыі, калі Мілошавіч застанецца пры ўладзе.

Мы ж у Беларусі можам сачыць за цяперашнімі падзеямі ў Югаславіі, спрабуючы атрымаць нейкія ўрокі. Большасьці сэрбскай апазыцыі ўдалося зрабіць тое, да чаго беларускай яшчэ трэба прыкласьці шмат намаганьняў — знайсьці згоду наконт агульнага кандыдата, які здолеў абысьці дыктатара па папулярнасьці.

Да таго як Каштуніца стаў такім кандыдатам, ягоныя рэйтынгі былі не нашмат вышэйшыя за паказчыкі нашых апазыцыйных лідэраў. Аднак гэта ня выпадак хуткага пад'ёму лідэра-папуліста. Каштуніца не абяцае зрабіць усіх ува дначасьсе шчасьлівымі. Ён ня кажа, што мае адказы на ўсе пытаньні. Што праўда, ён пазьбягае празахודных выказваньняў, але гэта натуральна ў краіне, якая ня так даўно перажыла натаўскае бамбаваньне. Калі на твой горад падаюць ракеты, трэба мець ці надзвычай халодны розум, ці схільнасьць да мазахізму, каб запэўніць сябе, што гэта робіцца са шляхетнымі мэтамі. Нават такую сур'ёзную рэч, як дзесяць год апартэіду ў Косаве, заўжды пераважыць разбураны будынак у тваім раёне. У той жа час Каштуніца кажа аб сваім жаданьні зрабіць Югаславію нармальнай дэмакратычнай эўрапейскай краінай, і відавочна, што большасьці сэрбаў такая вестка падабаецца.

Але ў краінах, што жывуць пад дыктатурай, мець папулярнасьць недастаткова, каб атрымаць уладу. Пытаньні, на якія сёньня даводзіцца шукаць адказ сэрбскай апазыцыі, нават у лепшым сцэнары паўстануць і перад апазыцыяй беларускай. Хто будзе лічыць галасы? Хто — абвяшчаць вынікі? Як людзі адрэагуюць на фальсыфікацыю? Як да гэтага паставяцца войска, паліцыя, спэцслужбы? Хто кантралюе мясцовыя ўлады? Ці ёсьць ва ўладзе людзі, якія гатовыя перайсьці да апазыцыі? Але найважнейшае — наколькі людзям абрыдла жыць у сёньняшніх умовах, наколькі яны гатовыя рызыкнуць кожны на сваім месцы, і ці знойдзецца сіла, якая здолее іх арганізаваць?

У сэрбскай апазыцыі ёсьць некаторыя перавагі ў параўнаньні з нашаю краінай. Яна трымае мясцовую ўладу ў буйных гарадох — вынік трохмесячных дэманстрацый пратэсту супраць фальсыфікацый на мясцовых выбарах увосені 96-га. Увогуле, досьвед масавых акцыяў пратэсту ў сэрбаў больш пасьпяховы. Нарэшце, яны папросту мелі больш часу стаміцца ад свайго дыктатара, а Мілошавіч прынёс сваёй краіне больш бедаў, чым любы іншы эўрапейскі кіраўнік апошніх часоў.

Відавочныя мінусы Сэрбіі — жудасная мілітарызацыя краіны як вынік некалькіх войнаў і невераголны ўзровень карупцыі. Аглядальнік часопіса "Сэрбская палітычная думка" Іван Міленкавіч лічыць, што Мілошавіч такім чынам здолеў амаль цалкам разбурыць структуру сэрбскага грамадзтва, зьнішчыўшы магчымасьць наладзіць сур'ёзны супраціў дыктатуры.

Так гэта ці не, мы пабачым у бліжэйшыя дні. Для Югаславіі сёньня асноўная надзея ня толькі ў тым, што большасьць выбарцаў, стомленая дэмагогіяй Мілошавіча, аддасьць свае галасы ягонаму асноўнаму суперніку. Настолькі ж важна, каб дастатковая колькасьць людзей, у тым ліку і ўва ўладзе, паверыла, што можна зьмяніць сыстэму, не заліўшы пры гэтым краіны крывёй.




Расея

# Спрэчкі пра алігархаў

Сёньняшняя Расея нагадвае Рым IV—V ст. Замест таго, каб адбівацца ад гунаў, готаў і вандалаў жыхары імпэрыі зацята спрачаліся, ці Хрыстос тоесны з Богам-Бацькам (homoousion) ці толькі падобны да яго (homoiousion). Грамадзкія спрэчкі ў Расеі тым больш дзіўныя, што нават калі б мы ня ведалі, што зрабілі Гусінскі зь Беразоўскім, то ўсё роўна яны б ня мелі шанцаў стаць хоць крыху падобнымі да Хрыста. Нават барацьба за свабоду слова не пазбавіць іх рэпутацыі асобаў, мякка кажучы, вельмі падазроных.

З пункту гледжаньня апалегетаў абодвух гэтых паноў іх сумнеўныя заслугі, а таксама сумнеўныя карэктнасьць і адказнасьць мэдыяў, што ім належаць, цалкам абгрунтаваныя, бо яны крытыкуюць уладу і тым самым не дазваляюць устанавіць манаполію дзяржавы ў СМІ. Пры гэтым мяркуецца, што ўсе рэдакцыі, што не належаць Гусінскаму альбо Беразоўскаму, цалкам кантралююцца дзяржавай. Гэта зусім не адпавядае рэчаіснасьці, але ў імя барацьбы за свабоду слова многія людзі шмат на што заплюшчваюць вочы. Яны ўважаюць, што апазыцыйнасьць да цэнтральнае ўлады апраўдвае ня толькі ўсе маральныя й інтэлектуальныя аблуды ейных працаўнікоў, але і вызваляе іх ад крымінальнай адказнасьці. Працаўнікі абодвух паноў сьцьвярджаюць у адказ, што апазыцыйнасьць Гусінскага й Беразоўскага ёсьць выключна сродкам, а ня мэтай. Калі б падманам фінорганаў, выманьваньнем крэдытаў ці ашукваньнем укладчыкаў займаліся звычайныя бізнэсмэны, дык іх дзейнасьць лёгка можна было б утрымаць у рамках існуючых законаў. Калі ж гэткія рэчы робіць чалавек, што змагаецца за свабоду слова і ўзначальвае пры тым Расейскі Жыдоўскі Кангрэс, як Гусінскі, то ўсе спробы ўтрымаць яго трактуюцца як напад на свабоду слова, вяртаньне таталітарызму і антысэмітызм.

Спрэчкам пра алігархаў ня бачна канца. Праблема нават ня ў тым, што перад расейцамі сёньня стаяць больш паважныя заданьні. Кожны дзень дэбатаў у абарону свабоды слова яшчэ больш аслабляе і без таго крохкую мову расейскай палітыкі. Такія паняткі, як "свабода слова", "незалежнасьць прэсы", "таталітарызм", губляюць сваё значэньне. "Свабода слова" і "таталітарызм" зьяўляюцца ўжо выключна ўвэртурай да тэрміновага біцьця ў званы. Калі гэтак пойдзе і далей, неўзабаве словы цалкам страцяць сваё значэньне. Грамадзтва акажацца пазбаўленае мовы. А нашто свабода слова людзям, якія ня маюць мовы?

**Максім Сакалоў**



**Міхаіл Хадаркоўскі**

**Уладальнік нафтавага канцэрну "Юкос", які паводле аб'ёмаў здабычы займае трэцяе месца ў сьвеце. Гадавы прыбытак прадпрыемства, якое распасьцірае сваю дзейнасьць і на мэталюргічную і хімічную прамысловасьць, складае каля 3 млрд USD. У 1998 г. маёмасьць Хадаркоўскага ацэньвалася ў 2,2 млрд. USD.**



**Міхаіл Фрыдман**

**Дырэктар нафтавай кампаніі ТНК і "Групы Альфа", у склад якое ўваходзяць экспартэры нафты і інвэстбанк "Альфа Капітал", які працуе пераважна на харчовым рынку. "Альфа-Цэмэнт" — найвялікшы расейскі вытворца цымэнту (26% рынку).**



**Рэм Вяхіраў**

**Шэф "Газпраму" — манапаліста, які штогод экспартуе газу на 9,5 млрд. USD. Канцэрн валодае 29 рэгіянальнымі газэтамі і тэлестанцыямі.**



**Барыс Беразоўскі**

**Магнат, якому належалі долі ў тэлеканалах ОРТ і ТВ-6, радыёстанцыі "Наше Радіо", газэты "Коммерсант" і "Независимая газета". Мае таксама долю ў прадпрыемстве "Сібнефть". Пэўны час быў выканаўчым сакратаром СНД і віцэ-шэфам Рады бясьпекі Расеі. У 1997 г. апынуўся на 97 месцы ў сьпісе найбагацейшых людзей сьвету паводле часопіса "Форбз".**



**Уладзімер Гусінскі**

**Гаспадар голдынгу "Мэдыя-Мост" (тэлеканал НТВ, радыё "Эхо Москвы" і тыднёвік "Итогі") і 50 прадпрыемстваў ува ўсёй краіне. Часопіс "Форбз" ацэньвае маёмасьць Гусінскага у 400 млн. USD.**



**Анатоль Чубайс**

**Кіраўнік расейскай энэргетычнай манаполіі (3/4 электраэнэргіі краіны). Былы віцэ-прэм'ер і кіраўнік адміністрацыі Ельцына. У 1997 г. прыбытак фірмы, якая фармальна зьяўляецца акцыянэрным таварыствам, склаў амаль мільярд даляраў. А гадавы абарот — 16 млрд. USD.**



**Уладзімер Вінаградаў**

**Кароль слодычаў (паводле іх спажываньня Расея заняла летась другое месца пасьля ЗША). Да 1998 г. — старшыня праўленьня Інкамбанку. Праз фірму праходзіла амаль 10% абаротаў расейскага замежнага гандлю.**

**"ВКЛ ад мора да мора" – такі плякат вісеў над уваходам у дзіцячы летнік "Каралявец-2000", што працаваў з 10 па 25 жніўня на Балтыйскім моры, у Зеленаградзку. Абрэвіятура ВКЛ у гэтым выпадку расшыфроўвалася яшчэ і як "Вялікае княства ладу" – мадэль ідэальнай беларускай дзяржавы, якую спрабавалі выбудаваць за два тыдні 46 дзяцей і 9 дарослых. І паўсталі ў гэтай дзяржаве ваяводы ды ваяводзтвы, Вялікі Князь і Вялікая Княгіня, свой Статут і свае замкі. Грамадзяне ВКЛ у абсалютнай большыні мелі слынныя беларускія прозьвішчы: Сагановічы, Запрудзкія, Міклашэвічы, Янушкевіч, Краўцэвіч, Зайкоўская...**

20 год таму людзі з дакладна такімі прозьвішчамі ўваходзілі ў кола маіх сябрукоў-таварышоў-аднадумцаў. Але з большасьцю іхных нашчадкаў давялося пазнаёміцца толькі сёлета, у летніку. У першыя імгненьні гэта стварала непераадольнае адчуваньне "дэжа вю". Тыя ж усьмешкі, тая ж манера трымацца, тыя ж інтанацыі ў голасе! Толькі праз пару дзён, калі схлынула эўфарыя, дзеці пачалі заўважацца як самакаштоўныя і самадастатковыя асобы.

Яны і такія ж, і не такія, якімі мы іх сабе ўяўлялі калісьці – калі самі на Вялікага Князя Міхась Чыжык – ня маючы пад рукой аніякіх узораў, хлопец з памяці напісаў Статут паводле гістарычных традыцыяў). Беларуская мова ў Статуце абвяшчалася дзяржаўнай моваю ВКЛ. Грамадзяне ВКЛ мелі поўныя правы карыстацца любой іншай моваю, але абраза дзяржаўнай мовы разглядалася як найцяжэйшае дзяржаўнае злачынства. Забягаючы наперад, скажу, што дзяржаўных злачынцаў у летніку не знайшлося.

І апошняе, пра што хацелася б сказаць, перш чым перайсьці да іншае тэмы. Дзеці ня робяць асаблівай праблемы зь беларускай мовы ...


АЛЕСЬ АСТРАЎЦОЎ

# Два тыдні ў дзіцячым Караляўцы

былі амаль што дзецьмі, студэнтамі, і марылі пра ўласную будучыню. У дзецях, што прыемна, амаль не адчуваецца той нашай фанатычнай зацятасьці, якая была нам неабходнай абаронаю ад цалкам чужога атачэньня. Беларуская мова для гэтых дзяцей – звычайная рэч, чутая з маленства ў хаце, таму яна і не акцэнтуецца сьвядомасьцю як штосьці выключнае, ад чаго ў вачах мусіць запальвацца адмысловы бляск "барацьбы". "На якой мове яны размаўлялі паміж сабой?" – ведаю, што многім бацькам хацелася б задаць гэтае пытаньне, прадыктаванае, зрэшты, непазбыўным максымалізмам нашага юнацтва. І ведаю, чаму не задавалі. Бо ў сутнасьці яно мела б зусім іншы падтэкст: ці не пайшлі з дымам усе нашыя бацькоўскія намаганьні прышчапіць беларускасьць на саджанец, гадаваны ў расейскамоўным лесе?

Таму адказваю спачатку сутнасна: не пайшлі; і паспрабую ўсім гэтым артыкулам давесьці, чаму я так лічу. А дзеці гаварылі міжсобку і так, і гэтак, залежна ад сытуацыі. Калі гулялі ў карты, часьцей карысталіся расейскай. Але і беларуская не была ў іх "парадная піянэрская формай", якой мусова зьвяртацца толькі да старэйшых, выконваючы навязаныя імі правілы гульні. Дарэчы, дзякуючы менавіта жывой беларускай мове дзяцей наш летнік адшукаў... Віктар Скорабагатаў, які ў гэты самы час разам з жонкай адпачываў у Зеленаградзку. Ён потым распавядаў: ідзе па горадзе і чуе, як дзьве дзяўчынкі ажыўлена абмяркоўваюць нешта па-беларуску. Яго разьвярнула на словах "упрыгожаньні з бурштыну". Дзяўчаткамі аказаліся Сьвятаяна Емяльянава і Данута Зайкоўская. Потым слаўныя опэрны сьпявак нязмушана завітваў у летнік ці не штодня – відавочна, цешыўся беларускай атмасфэрай ды размовамі як з дарослымі, так і зь дзецьмі.

Дзеці, безумоўна, адчувалі ўласную моц, бо нас было шмат – цэлы вагон беларусаў! (Калі на выезьдзе праходзілі памежны кантроль, хтосьці з эрбэшных памежнікаў так і далажыў начальству па рацыі: "Тут едут национальные белорусы".) Гэтая моц разьвязвала языкі, і дзеці зьвярталіся па-беларуску нават і да этнічных расейцаў у Зеленаградзку. Становішча беларускай мовы ў летніку "Каралявец-2000" добра было акрэсьленае Статутам (Статут самастойна ўклаў абраны вай праблемы зь беларускай мовы яшчэ й таму, што... ведаючь больш моваў, чымся мы. Пятнаццацігадовы Стах Міклашэвіч самастойна зарабіў грошы на паездку ў летнік, працуючы перакладнікам з ангельскай ды нямецкай. У іхным пакаленьні такім учынкам нікога ня зьдзівіш, і дзякуй Богу! Гэты самы Стах – яскравы нефармальны лідэр, душа кожнай кампаніі і бяда дзявочым сэрцам – аднойчы даў мне пачытаць свае вершы ("я ж, цётка Віялета, славуты паэт-песеньнік... у стылі хіп-хоп"). Адна песьня была, натуральна, пра нешчасьлівае каханьне, другая, кажучы сьціісла, — пра экалёгію ды чалавецтва наагул. "Слухай, — захоплена сказала я паэту, праслухаўшы абодва вершы ў аўтарскім выкананьні, — і мы ж пісалі зусім так у свае пятнаццаць! Вось гэтая, першая, звалася б у нас "любоўнай лірыкай", а другая – "канкурсам палітычнае песьні". Ну, рытм у нас быў іншы, клясычны мэтар, — а вобразы тыя ж, і часам нават тыя ж рыфмы!" "Вось за першую, — адказаў самавіта Стах, — мне прад'юсар заплоціць даляраў сто, а за другую — толькі пяцьдзясят. Быў бы і ніштаваты заробак, але песьні пішуцца, на жаль, дужа рэдка..." Не, гэта файна, што аналёгіі паміж бацькамі ды дзецьмі маюць свае межы...

Цяпер пра імёны. На імёнах дзяцей мы, бацькі, адцягнуліся, як змаглі. Многім з нас, ведаю, давялося ў свой час вытрымаць траха ня ўзброеную атаку з боку кансэрватыўных сваякоў ("Вы жа іспорціце рабёнку жызьнь такім нечалавечаскім іменем!"). Ну вось, праз 10–15 гадоў высьветлілася – не сапсавалі! Дзеці, натуральна, з маленства чуюць, што імёны вылучаюць іх з натоўпу, і яны вельмі хутка навучаюцца выкарыстоўваць гэта як сваю перавагу. Але, бадай, толькі ў летніку, калі разам зьбіраюцца Яважына ды Верас, Стасікі ды Стэфаніі, Данута, Хрысьціны, Ясікі і Яніны, калі дзьве ці не адзіныя на ўвесь Менск Камілы сьпяць на суседніх ложках, прычым высьвятляецца, што адна зь іх мае брата Дамініка, а другая – сястрычку Дамінічку, — толькі тут, у гэтым суквецьці, дзеці, мне здаецца, пачынаюць атрымліваць ад сваіх імёнаў асалоду іншага кшталту (якраз тую, на якую мы калісьці падсьвядома разьлічвалі): асалоду не ад выключнасьці, а ад лучнасьці.

Нешта падобнае было і з гімнам. Калі на першым вечаровым сходзе летніка я пачула, што "Пагоню" будуць сьпяваць штовечар на лінейцы, прызнаюся, спачатку трохі спалохалася дэвальвацыі. Бо няма нічога гідчэйшага за сымбалі, калі яны навязаюць у зубах. Марныя перасьцярогі! Песьня дзень пры дні толькі набірала моцы. Больш за тое, калі перад сном мы выходзілі на шпацыр з групай самых маленькіх дзяўчатак (7–10 гадоў), тыя кожнага разу самі заводзілі менавіта "Пагоню". І баявіта маршавалі па ўсім Зеленаградзку (які за немцамі, дарэчы, зваўся Кранцам), старанна выводзячы таненькімі галаскамі: "Старадаўная Літоўская Пагоні не разьбіць, не спыніць, не стрымаць..." Мае ўласныя дзеці дагэтуль сьпяваюць "Пагоню" ў хаце часьцей за іншыя песьні. Званіла сябрам – у іх тая самая карціна.

Ня буду хаваць, што хацця наагул люблю ўсіх дзяцей, да "нашых дзетак" адчуваю своеасаблівы сантымэнт. Але пра тое, што "нашы" адрозьніваюцца ад "звычайных", першымі пачалі гаварыць людзі збоку – пэрсанал Зеленаградзкага цэнтру пазашкольнай працы і дадатковага навучаньня, у будынку якога атабарыўся наш летнік. Пачынаючы ад дырэктара цэнтру Яўгена Ітбаева і сканчаючы прыбіральшчыцай бабуляй Ганнай Нілаўнай (якая, дарэчы, чытала пад нашымі дзецьмі малітвы, калі хто зь іх прастуджваўся) – усе яны, не змаўляючыся, сьцьвярджалі: вашыя дзеці адрозьніваюцца ў лепшы бок ад тых, што прыяжджалі сюды раней. Нашыя пэдагогі часам нават недаверліва ставіліся да такіх кампліментаў: дзеці як дзеці, чым ужо так яны лепшыя? Пэдагогам асабліва не было калі захапляцца выхаванцамі – даводзілася то лагодзіць непазьбежныя канфлікты, то ўшчуваць за традыцыйныя дзіцячыя "грахі" (напрыклад, калі ўночы хлопчыкі вымазалі зубной пастай дзяўчат з суседняга пакою – то бок, гэта называлася "міжусобіцы паміж ваяводзтвамі"). А чужым кідалася ў вочы іншае. Што вучаніца восьмай музычнай клясы рэспубліканскага мастацкага ліцэю імя Ахрэмчыка Аліна Мельнік прывезла з сабой ноты і гадзінамі выконвала на піяніна клясычную музыку ("Я думаў, што будуць, як звычайна, толькі мучыць інструмэнт", — дзіваваўся дырэктар — ён сам, між іншым, узначальвае ў цэнтры клюб аўтарскай песьні). Што Анжаліна Туфкрэо, якая сёлета паступіла ў мастацкую вучэльню імя Глебава, удзень забірала дваіх маладзейшых – Яважыну Міклашэвіч (вучыцца ў мастацкай школе) ды Кастуся Костку (вучыцца "ў Ахрэмчыка" на скульптуры) і вяла іх на мора пісаць эцюды. Што калі ў сталоўцы адключылі сьвятло і сьнеданак пазьніўся, дзеці ня гойсалі і не крычалі, а разам з пэдагогамі – Зьмітром Сідаровічам, Ільлём Арыставым ды Аляксеем Галічам – хвілін сорак сьпявалі народныя песьні.

Асабіста я б адзначыла яшчэ некалькі рысаў, якія, мне здаецца, станоўча вылучалі "нашых дзяцей". Па-першае, што б ні прыдумлялі для іх пэдагогі (апроч названых вышэй, імі былі Алесь Астраўцоў ды Алесь Гурыновіч) і дырэктар летніка (яна ж Вялікі Канцлер Ганна Барвенава) – а праграма была надзіва шчыльнай! – дзеці (і нават падлеткі) заўсёды ахвотна падхоплівалі ўсе прапановы. Тут жа пачыналі вынаходзіць карнавальныя строі, разыгрываць сцэнкі, развучваць вершы і песьні. (Бачыла я багата іхных равесьнікаў, якія ў падобных сытуацыях ляжаць на ложках у брудным абутку ды лена цэдзяць: "а пайшлі вы са сваім конкурсам...") Па-другое, паміж старэйшымі ды малодшымі (а ўзрост дзяцей вагаўся ад 3 да 17 гадоў) была нейкая большая за сярэднюю цярплівасьць: старэйшыя часам бралі ўдзел у дзіцячых забавах (напрыклад, падчас конкурсу "Замак зь пяску" ўсе захапіліся і пачалі выбудоўваць на пляжы амаль гістарычныя фартэцыі) і збольшага паблажліва ставіліся да малодшых, калі тыя пішчом лезьлі ў дарослыя кампаніі. (Пасьля летніка мая трохгадовая Дамініка бясконца "нарываецца" на непаразуменьні ў двары, бо ў летніку звыкла на роўных гуляць зь дзевяцігадовымі і размаўляць з дванаццацігадовымі.) Па-трэцяе, мала ў якім калектыве здолеў бы адбыцца супольны канцэрт выхаванца і пэдагога, прычым гледачы годна і прыязна сустрэлі як сьпевы барда Зьмітра Сідаровіча, так і выступ трынаццацігадовай Дар'і Канцадайлы (яна ж Вялікая Княгіня) – дзяўчынка мае выдатныя акторскія здольнасьці: сьпявае, танчыць, дэклямуе, і пры гэтым не раздражняе раўналеткаў сваёй зьвышактыўнасьцю.



Памеры газэтнай публікацыі, як заўсёды, вымушаюць многае пакідаць "за кадрам". Арніталягічную станцыю і дзюны на Курскай касе; 60-мэтровы абрыў ля пасёлку Данское, куды так цяжка было каракацца з поўнымі жменямі назьбіранага на пляжы дробнага бурштыну; шматлікія помнікі прускай ды нямецкай старажытнасьці і стогадовы заапарк Калінінграду; удзел у сьвяце гораду і здымкі ў сапраўдным фільме пра Бураціна; і, безумоўна, непаўторны смак балтыйскіх хваляў.

Не магу не падзякаваць людзям, якія арганізавалі гэты цудоўны адпачынак: Ганьне Барвенавай, Антаніне Хатэнцы, Ніне Петуховай, Валер'ю Аніпку. А тых маленькіх беларусаў, хто сёлета зь нейкіх прычынаў не паехаў да Балтыйскага мора, хачу заспакоіць: дырэктар гасьціннага Зеленаградзкага цэнтру пазашкольнай працы прапанаваў кіраўнікам летніка "Каралявец-2000" супрацоўніцтва на 5 (!) гадоў. Таму цалкам верагодна, што налета кіраваць беларускай дзяржавай давядзецца менавіта вам.

**Віялета Кавалёва,**
**Зеленаградзк—Менск**



# Гётэборг



*На кніжнай выставе ў Гётэборгу прайшлі Дні Беларусі, у якіх узялі ўдзел Васіль Быкаў і Вінцук Вячорка. "Vitryssland Det Fria Ordet" —"Адчыні дзьверы, Беларусь" — было лёзунгам дзён.*



ЭДВАРД ТАРЛЕЦКІ

**27 верасьня 1825 г. на чыгунцы Дарлінгтан—Стоктан у Брытаніі ўпершыню пачаў рэгулярна хадзіць цягнік**. У пабудовы чыгунак было шмат праціўнікаў, якія лічылі, што прырода забрудзіцца, каровы перастануць даваць малако, палі - ураджай, а людзі стануць вар'яцець ад грукату. Годам нараджэньня чыгункі ў Беларусі можна лічыць 1862-гі, калі скончылася пабудова лініі Пецярбург-Варшава праз Горадню і Вільню. У 1866 г. дадалася лінія Дзьвінск-Полацак-Віцебск. Да Менску чыгунка дайшла ў 70-х з пабудовай Маскоўска-Берасьцейскай і Лібава-Роменскай чыгунак, якія перакрыжаваліся ў ім. А яшчэ ў **1825 г. у Беларусі былі ўсталяваныя першыя паравыя рухавікі.** Гэтая важная падзея адбылася на суконных прадпрыемствах у Хомску і Косаве.

**27 верасьня 1925 г. памёр Аляксандар Бычкоў,** ураджэнец Магілёўскай губэрні, удзельнік тэрарыстычнай арганізацыі "Народная воля". У 1881 г. дзевятнаццацігадовы юнак разам з братамі Яўгенам і Уладзімерам быў арыштаваны паліцыяй у Кіеве і высланы ў Магілёўскую губэрню. Спачатку адправілі ў Сібір братоў, а літаральна праз некалькі месяцаў - Аляксандра: абвінавачаньне ў антыдзяржаўнай дзейнасьці, 10 гадоў катаргі. Бычкову ўдалося ўцячы і вярнуцца ў Пецярбург, дзе ён спрабаваў адрадзіць "Народную волю", але беспасьпяхова. Ён быў злоўлены паліцыяй і ўвязьнены ў Петрапаўлаўскай крэпасьці. Ад 1917 г. Бычкоў актыўна ўдзельнічаў у пасьлярэвалюцыйным змаганьні на баку бальшавікоў.

**30 верасьня 1900 г. Артур Грыфіт абвесьціў пра заснаваньне Гэльскай лігі.** Маладыя інтэлектуалы Дубліна, што аб'ядналіся ў ёй, выдавалі і пашыралі літаратуру на ірляндзкай мове, стваралі народныя школкі, заснавалі Ірляндзкі народны ўнівэрсытэт. У 1905 г. на базе Гэльскай лігі ўтварылася палітычная партыя Шын Фэйн. ("Шын Фэйн" перакладаецца як *спадзяемся толькі на сябе* — ці проста *мы самі.*)

У першай палове 20-х на Ірляндыю абрынуўся колькігадовы неўраджай. Патрабавалася замежная дапамога. **У 1925 г. Дэпартамэнт сельскай гаспадаркі Ірляндыі зьвярнуўся да наркама земляробства БССР Зьмітра Прышчэпава** з просьбай прыслаць друкаваныя матэр'ялы па сельскай гаспадарцы ў Беларусі. Прышчэпаў просьбу выканаў і выслаў у Дублін зборнік артыкулаў пад сваёй рэдакцыяй "Сельская гаспадарка Беларускай ССР і мерапрыемствы па яе ўзнаўленьні". Болей просьбаў з Ірляндыі не паступала.

**2 кастрычніка 1975 г. у Лёндане памёр беларускі каталіцкі сьвятар Тамаш Падзява**. Т.Падзява быў выпускніком славутай Друйскай гімназіі, якой апекаваўся Закон марыянаў. Па заканчэньні гімназіі малады чалавек прадоўжыў навуку ў Грыгарыянскім унівэрсытэце ў Рыме, дзе і быў высьвячаны на сьвятара. У 1935 г. ён быў накіраваны на місіянэрскую працу ў Харбін. У 1948 г. кітайскія камуністычныя ўлады, якія змагаліся з "варожымі" элемэнтамі, арыштавалі Тамаша Падзяву і перадалі савецкім органам бясьпекі: вырак - 10 гадоў канцлягераў. У 1955 г. пасьля вызваленьня Тамаш Падзява выехаў на Захад, браў там удзел у беларускім эміграцыйным жыцьці, працаваў у беларускай рэдакцыі Радыё Ватыкана.

У **1850 г. Рамуальд Друцкі-Падбярэскі быў арыштаваны царскімі ўладамі.** Юнак, што нарадзіўся ў сям'і віленскага шляхціца, рыхтаваўся паступіць у Віленскі ўнівэрсытэт, але пляны не ажыцьцявіліся, бо ўнівэрсытэт быў зачынены расейскімі ўладамі ў 1832 г. як гняздо сэпаратызму. Пасьля навучаньня ў Маскве і Пецярбургу Друцкі-Падбярэскі вярнуўся ў Вільню (1847), дзе заняўся выдавецкай дзейнасьцю. Ён выдаваў літаратурна-навуковыя альманахі "Рочнік літарацкі" і "Навукова-літаратурны дзёньнік". Альманах прапагандаваў здаровы сэпаратызм, што не падабалася імпэрскім уладам. У 1850 г. Рамуальда Друцкага-Падбярэскага арыштавалі і выслалі ў Архангельскую губэрню, дзе ён і памёр.

**Алег Гардзіенка**

# Князь зь Менску

Працяг са старонкі 1.

У "саветах" імя Ежы Гедройца проста замоўчвалася — яму ня мелі чаго супрацьпаставіць. "Скрайнімі" для маскоўскай прапаганды былі Бжэзінскі, Валэнса і Ян Павал II. Але неяк пры канцы 80-х у цягніку Ленінград—Варшава—Бэрлін я пачуў ад інтэлектуала-генэрала КГБ (той назваўся "Івановым, но фамілія вымышленная!") што ўсю польскую "Салідарнасьць" 80-х прыдумаў "этот ваш Гедройц із Паріжа". Ня меў я тады паняцьця ні пра Гедройця, ні пра літаратуру ды гісторыю XX ст., але запомнілася слова "ваш" — аказваецца, генэрал меў на ўвазе ня мой сапляцкі "перастроечны радыкалізм", а цалкам канкрэтны факт: паводле нараджэньня князь Ежы Гедройц быў менчуком, беларусам...

Ежы Гедройц лічыў "чумой другой паловы XX ст." ня толькі камунізм, які азначаў "паняволеньне народаў Усходняй Эўропы" і перадусім заняпад культуры і дэградацыю чалавека. Другой чумой ён лічыў ксэнафобію...

У апошнія гады польскія інтэлектуалы былі трохі зьдзіўленыя двума фактамі: па-першае, Гедройц уважаў, што найбольшае "дасягненьне" Польшчы ў другой палове 90-х гэта... карупцыя, нечуваны яе росквіт на ўсіх узроўнях; па-другое, рэдактар "Культуры" Ежы Гедройц не прапускаў аніводнага факту непаразуменьня мясцовых уладаў у Польшчы з "нацыянальнымі меншасьцямі". Прафэсар Браніслаў Герэмэк, нядаўні міністар замежных справаў Польшчы, у адным інтэрвію неяк сказаў, што, нікуды не выбіраючыся са свайго Мэзон-Ляфіт, Гедройц ведае, што робіцца ў Сувалках, Бельску-Падляскім, Гарадку, Любліне, Жэшуве і Перамышлю, як быццам там жыве, стол яго вечна завалены рэгіянальнай прэсай з усходніх ваяводзтваў Польшчы, як польска-, так і няпольскамоўнай. Прафэсар Герэмэк мог бы дадаць, што калі Беларускаму ліцэю ў Бельску "вырубілі" зімой ацяпленьне, бо міністэрства асьветы не пералічыла грошай, то Гедройц зьвярнуўся беспасярэдна да міністра Хандке і адлупцаваў апошняга, як гімназіста... А калі сьледам грошы за тое ацяпленьне вылажыў актор Даніэль Альбрыхскі (які жыве цяпер у Дарагічыне-над-Бугам), дык скандал выбухнуў на ўсю Польшчу! І такіх прыкладаў, у тым жа і выступаў у абарону беларускага друку ў Польшчы, назьбіраецца шмат...

Гедройц ад часоў міжваеннай Польшчы меў прыроджанае адчуваньне менавіта польскае ксэнафобіі, якая нараджае менавіта польскую карупцыю. На думку Гедройца, менавіта карупцыя давяла Польшчу да міжнароднай ізаляцыі і катастрофы ў верасьні 1939 году. А тую карупцыю, у сваю чаргу, спарадзіла ксэнафобія, падзел на "нашых" і "вашых", на "палякаў" і "непалякаў". І да сёньня, уважаў Гедройць, Польшча не пазбавіцца клопату, калі ясна не акрэсьліць сваёй усходняй палітыкі — перадусім адносна Літвы, Беларусі ды Украіны. Але гэтая палітыка ня можа мець нічога супольнага з патэрналізмам ды русафобіяй. Наадварот! Усе краіны за ўсходняй мяжой Польшча мае трактаваць як роўных партнэраў, добрыя ў тых краінах рэжымы ці дрэнныя.

Вяртаючыся ад Гедройца-палітыка да Гедройца-рэдактара "Культуры", трэба пачаць з таго, што ледзь ня ўсе польскія літаратары, каго ведаюць у сьвеце, у тым жа Чэслаў Мілаш ды Славамір Мрожак, так ці іначай прайшлі праз "Культуру". Гэта была школа, гэта было імя, гэта была рэкляма і прамоцыя, а часам, што тут хаваць, гэта быў адзіны заробак сьвежаспечанага эмігранта. Адным словам, не было б "Культуры", не было б і вялікіх польскіх пісьменьнікаў паваеннага часу...

Трэба заўважыць, што са свайго боку Гедройц і яго "Культура" імкнуліся да кантактаў з Усходам намнога больш, чым той Усход да кантактаў з Мэзон-Ляфіт. Зразумела, што лепшыя адносіны "Культура" мела з украінцамі (Б.Асадчук), нават расейцамі (выдавецтва МІК), а беларусы, як заўжды, не сьпяшаліся... Сьпяшалася "Культура" — пра Беларусь пісалі Бруна Дрвэскі, Анна Энгелькінг, Сакрат Яновіч, Уладзімер Паўлючук. Толькі што... ніхто зь іх не жыве ў Менску. І не ў адной ляноце тут справа. Справа таксама ў іншым спосабе аналізу, бо "Культура" глядзіць нават на нацыянальныя праблемы не з "нацыянальнага", а з гуманітарнага пункту гледжаньня. Што нам у Беларусі не заўжды даецца.

Міленійны 2000-ы выдаўся цяжкім. Памёр Гедройц, крыху раней памёр Герлінг-Грудзінскі... Але — такое жыцьцё. Ніхто з нас не жыве вечна. Пан Бог аказаўся мудрым, калі даў Ежы Гедройцу 94 гады. Усё нашае XX стагодзьдзе

**Алесь Чоб...**

# Мы ўсё яшчэ жывем пад адным намётам

## *Фрагмэнты гутаркі зь Ежы Гедройцам пра тое, як паўставала "Культура"*

**— Першы нумар "Культуры" выйшаў 1 чэрвеня 1947 году. Перад вайной Вы выдавалі спачатку часопіс "Myśl Mocarstwowa", пасьля "Bunt Młodych" і "Polityka" - апошняе перад самай вайной. А пасьля вайны Вы выбралі назву "Культура". Артыкулы першага нумару закраналі падставовыя праблемы эўрапейскай культуры, яе сэнсы і вартасьці, а аўтарамі нумару былі Крочэ, Валеры, Чапскі, Кронскі. Якою была Ваша інтэнцыя пры заснаваньні гэтага выданьня?**

**Ежы Гедройц:** Часопіс "Культура" быў пабочным прадуктам. Нашым найважнейшым намерам было ўсё ж выдаваньне кніг, якімі мы разьлічвалі з эміграцыі ўплываць на бацькаўшчыну. Мы сыходзілі з таго, што любыя арганізацыйныя формы на эміграцыі ня маюць сэнсу, бо вельмі хутка выраджаюцца. Апроч таго, мы тады, у адрозьненьне ад усёй польскай эміграцыі, ня думалі, што вайна вырвецца вось-вось, праз год, з хвіліны на хвіліну, і таму, мауляў, ня варта нічога асаблівага на чужыне закладаць. Пытаньне ўплыву праз слова было для мяне найважнейшым.

Яшчэ ў войску я выдаваў кнігі для жаўнераў, пачынаючы ад "Пана Тадэвуша".

"Культура" ж мусіла стаць такім інтэлектуальным квартальнікам, якому мы не надавалі вялікай вагі. Недзе ў 1947 г. мы зарыентаваліся ў сытуацыі, пераканаліся, што Італія - вельмі няўдалае месца і для кантактаў з Польшчай, і для ўплыву на эміграцыю. Мелі мы і іншыя клопаты. Дэмабілізаваныя польскія жаўнеры пачалі неяк уладкоўвацца пасьля вайны і апынуліся ў складанай жыцьцёвай сытуацыі. Кнігі купляць перасталі, друкаваныя выданьні сталі для людзей прадметам раскошы. Мы гэтага не прадбачылі.

Мы мелі таксама праблемы з друкарняй — купілі сабе ўласную друкарню, якая аказалася для нас сапраўднай катастрофай. Друкарняю кіраваць — а ў нас была вялікая друкарня — непрафэсіяналам і неспэцыялістам было няпроста, асабліва ўва ўмовах жорсткай канкурэнцыі. Тады мы вырашылі перанесьці сваю дзейнасьць у Парыж і сканцэнтравацца толькі на часопісе.

Група, якая стала выдаваць часопіс, сабралася шчэ ў часе вайны. Я быў кіраўніком Прэсы і выдавецтваў II Корпусу, працаваў там з Зоф'яй Герц. Мерашэўскі працаваў публіцыстам у "Parade" - ілюстраваным часопісе, выдаваным папольску ангельцамі. Зь Юзэфам Чапскім мы пазнаёміліся яшчэ ў Польшчы, у клюбе, які называўся "Дамок у Каломне" — на літаратурных вечарынах, ладжаных Дзьмітрыем Філосафавым [расейскім інтэлектуалам, што жыў на эміграцыі ў Варшаве]. І мяне, і Чапскага вельмі чаравала тады расейская літаратура. Пасьля мы зь ім па-добраму пазналіся ў войску. Чапскі нечакана "адкрыў" мяне і не бязь цяжкасьці ўцягнуў у прапагандысцкую працу - да таго я служыў стралком. Трохі насуперак маёй волі. Хоць войска не было маім пакліканьнем, але ад таго часу ў мяне засталіся самыя прыемныя ўспаміны. Табрук быў для мяне цудоўным адпачынкам - мора, пясок, многа сонца, было вельмі прыемна. І я цудоўна пачуваўся ў ролі стралка. Зыгмунт Герц далучыўся да нас у 1946 годзе. Ён быў чалавекам няпішучым, і ягоныя функцыі былі найперш адміністрацыйнымі. "Культура" вельмі многім яму абавязаная. Мы пачыналі працу ў вельмі цяжкіх варунках. Найбольшай праблемай быў пошук грошай. Сьмешна, што ў сутнасьці першы фундуш на выданьне "Культуры" мы займелі дзякуючы ангельцам. У Корпусе, у якім мы служылі, былі т.зв. *salvages*, г.зн. месцы, дзе ангельцы выкідалі непатрэбныя рэчы - усялякія старыя падзёртыя намёты, сапсаваныя машыны. Ну, і таксама каністры зь нявыкарыстаным бэнзынам. І, дзякуючы вельмі зычлівай дапамозе ген. Вішнёўскага, шэфа штабу II Корпусу - гэта быў адзіны генэрал, які нам многа дапамагаў і спрыяў - мы атрымалі адмысловы дазвол і маглі папросту браць усё, выкінутае ангельцамі.

Вось жа, скажам, нейкія намёты, не патрэбныя нікому, апынуліся на звалцы, а мы іх забралі і спродалі нейкім, назавем іх так, італьянскім харцарам, якім яны прыдаліся, за нейкія 1,5 млн. ліраў. Даставалі мы й бэнзын, такі паплатны на чорным рынку, прычым мы маглі яго даставаць практычна ў неабмежаваных колькасьцях. Герц уладжваў гэткія інтарэсы проста геніяльна. З бэнзынам, прыкладам, было многа рамантыкі. Даставаць яго было лёгка, а дзе трымаць - невядома: за гандаль на чорным рынку дужа каралі і італійцы, і ангельцы. Дык мы яго трымалі ў адным кляштары. Менавіта дзякуючы Зыгмунту. Быў там адзін *padre economo*, які выдзеліў нам вялізныя лёхі ў сваім рымскім кляштары, і мы туды звозілі той бэнзын. Ясная рэч, *padre economo* меў сваю долю бэнзыну, у тым і быў гешэфт. Гэтак мы ўзьбіліся на сякія-такія грошы. На гэтыя грошы і распачалося выданьне часопіса, а сапраўдны фундуш мы атрымалі толькі на друкарню.

**— Як Вы тады ацэньвалі сытуацыю, для каго хацелі выдаваць часопіс, для Айчыны ці для эміграцыі?**

— Тады найперш для эміграцыі. Мы ўжо тады спрабавалі наладзіць стасункі з Айчынай, але яны былі вельмі ўскладненыя. Але я ўважаў, што сьлед уплываць на сытуацыю ўва Ўсходняй Эўропе праз Айчыну, зь сярэдзіны, што трэба рабіць гэткія спробы. Тады гэта выглядала вельмі амбітна, але прыкладам таго, што гэта мажліва, быў "Колокол" Герцэна.

Спачатку эміграцыя была настроеная на тое, што вайна пачнецца заўтра і ня трэба нічым займацца. Пасьля многія занялі пазыцыю поўнага спыненьня любых кантактаў з ПНР, пазыцыю, што любая супраца з ПНР — на культурным, так бы мовіць, фронце — гэта нейкая здрада. Гэта была прынцыповая адмова ад кантактаў і першы канфлікт "Культуры" з эміграцыяй.

Гэта быў найважнейшы канфлікт, хоць і пасьля канфліктаў не бракавала. Вельмі важны канфлікт разгарэўся таксама ў справе Вільні і Львова. Мы цьвёрда заяўлялі, што - падабаецца нам гэта ці не - але Вільня мусіць быць літоўскаю, а Львоў будзе ўкраінскім, і мы маем прызнаць гэта, зрабіць гэта для нармалізацыі стасункаў з суседзямі. Нармалізацыя тых стасункаў была для нас першарадным заданьнем. Ня кажучы ўжо пра чыста рэалістычны падыход.

Зрэшты, я трохі назіраў гэта на сабе. Я сам зь Менску, Менск быў маёй як бы "малой радзімай". Цяжка было змагацца, праўда ж, каб Менск вярнуўся ў склад Польшчы. Засталася толькі праблема сантымэнту. Што датычыць усходніх суседзяў, дык мы можам думаць толькі пра захаваньне памятак польскасьці, падкрэсьліваць, што тыя пара соцень гадоў - гэта ўсё ж супольная гісторыя тых народаў і Польшчы. І гэта ўсё, што мы можам зрабіць.

**— Чужы для роднага краю, чужы для эміграцыі, Вы мусілі пачувацца вельмі самотным...**

— Вельмі самотным.

**— Чаму Вы вырашылі перанесьці выданьне ў Парыж?**

— У Францыі было вельмі зручнае геаграфічнае становішча і для падтрыманьня кантактаў з родным краем, і для падтрыманьня кантактаў з эміграцыйнымі асяродкамі. Італія ж ляжыць занадта ўбаку.

Калі мы пераяжджалі ў Францыю, сытуацыя там была вельмі цяжкою. Ішла хваля камуністычных страйкаў, шалеў КГБ. Тады ён дзеяў тамака цалкам афіцыйна, выкрадаючы людзей проста на вуліцах. У гэтым сэнсе сытуацыя была дужа непрыемнаю.



Аднак мы мусілі пакінуць Італію ў любым разе. Нам пашэнціла вельмі ўдала прадаць друкарню, і мы змаглі ня толькі сплаціць пазыку ад Фонду Жаўнера II Корпусу, але й займець грошы на два гады дзейнасьці. Пасьля гэтых двух гадоў надышоў нашмат цяжэйшы пэрыяд дзейнасьці, бо, калі скончыліся грошы, - а гэта быў прыкладна 1949 год - мы апынуліся ў надзвычай цяжкім фінансавым стане. "Культура" не была яшчэ раскручанаю. Тады нас уратаваў Чапскі. Мы паслалі яго ў ЗША і Канаду, пасьля ён паехаў у Паўднёвую Амэрыку і скрозь зьбіраў грошы. Найперш сярод палякаў. І так езьдзіў два разы. Дзякуючы яму, ператрывалі той цяжкі пэрыяд.

А пасьля ўжо ўсё нейк закруцілася. Была ўжо падпіска, пачалі выдаваць кнігі. Кошты вярталіся збольшага з падпіскі, па якой разыходзілася спачатку 2 тыс. асобнікаў. Пасьля досыць доўга гэтая лічба трымалася на ўзроўні 3 тыс. Пасьля наклад стаў расьці. Гэтак патроху дайшло да сучаснай лічбы 7 тыс.

**— Калі б Вам прыйшлося паўтарыць усё ад пачатку, калі б Вы зноў апынуліся ў 1947 годзе, Вы дзейнічалі б гэтакжа?**

— Мусіць, так. Рэч, мабыць, у нейкай маніі. Я палітычная жывёліна. Гэтаксама было ў пэўным сэнсе перад вайной, калі я выдаваў часопіс у вольны ад працы час. І тая праца ўжо тады была арганізаваная амаль тым жа чынам, што й цяпер у Мэзон-Ляфіт - з той толькі розьніцай, што тады не было Зосі Герц, а была Мар'я Прандзінская. Увогуле я хачу Вам сказаць, што прынцып такі: усё, што хочаш, можна зрабіць, калі ёсьць жанчына. Калі ж казаць пра палякаў, дык працаваць можна толькі з жанчынамі, не з мужчынамі. У сэнсе нейкай такой штодзённай цяжкай працы. Я ня надта цаню палякаў, вельмі цаню палячак.

**— На Вашу думку, працу такіх прадпрыемстваў, як "Культура" і "Інстытут літарацкі", маглі б у будучыні працягваць іншыя людзі?**

— Не ўяўляю сабе, як гэта магло б стацца. Гэта праблема, якая мяне вельмі прыгнятае і якую я вельмі моцна адчуваю. Кожны з нас жыве з пачуцьцём несьмяротнасьці і ня вельмі задумляецца над тым, што будзе. Прынамсі, я дагэтуль не знайшоў рэцэпту, як вырашыць гэтыя справы.

Ведаеце, спадарыня, выдаваньне часопіса - гэта трохі як рэжысэраваньне ў тэатры.

Ня бачу, праўда, хто мог бы прадоўжыць маю справу. У часопіса "Культура" і "Інстытуту Літарацкага" не было ніякага прэцэдэнту. Ніякага. Ім нельга насьледаваць. "Культура" - вельмі спэцыфічны часопіс, непаўторны. Гэта як схіма. Чатыры ці пяць чалавек прысьвяцілі гэтаму сваё жыцьцё. У пэўным сэнсе гэта працяг таго, што мы рабілі ў войску, жывучы пад адным намётам. Усе мы жывем і надалей пад тым намётам. Тутака, у Мэзон-Ляфіт, і жывем, і гатуем сабе, і сядзім цэлы дзень над гэтым усім... Трэба прысьвяціць сябе гэтаму цалкам. Практычна, прыходзіцца адрачыся прыватнага жыцьця.

**Размова адбывалася ў Мэзон-Ляфіт 19 студзеня і 10 лютага 1981 г., упершыню яна была надрукаваная ў польскім самвыдаўскім пэрыёдыку "Res Publica" (№ 8 / 1981). Загаловак і скарачэньне "НН".**

**Запісана Барбарай Тарунчык - пісьменьніцай, заснавальніцай і рэдактаркай часопіса "Zeszyty Literackie" (выдаванага ад 1983 г. у Парыжы, ад 1990 г. у Польшчы).**

# Палякі-калгасьнікі

## *Мусіць быць калхоз. Без калхозу прападуць людзі.*

*Агульная думка ў калгасе “Сьветлы шлях”.*

Анна Энгелькінг



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Адно з даволі распаўсюджаных спрашчэньняў, што датычаць палякаў на Ўсходзе, — прыпісваньне ім *en bloc* польскай нацыянальнай сьвядомасьці. Этнасацыялягічныя досьледы сярод вясковых жыхароў Беларусі могуць, аднак, паставіць такое спрашчэньне пад сумнеў. На маю думку, такія досьледы варта праводзіць менавіта ў Беларусі: тут жыве найбольшая сярод усіх краінаў былога СССР г.зв. “польская меншасьць”, і ў той жа час вясковыя жыхары складаюць заўважную большасьць у гэтай меншасьці. Пераважна гэта людзі старэйшага веку, зь невысокім узроўнем адукацыі. Без спазнаньня і зразуменьня іх спосабу жыцьця і мысьленьня веды пра палякаў у Беларусі будуць няпоўнымі.

Гэты лад жыцьця, гэтая мэнтальнасьць (сыстэма вартасьцяў, думак, прыхільнасьцяў, выбараў) моцна зьвязаныя з дзьвюма ўстановамі — калгасам і касьцёлам. Першая арганізуе працу, другая — рэлігійнае жыцьцё. З гэтай прычыны абедзьве яны граюць галоўную ролю ў супольным жыцьці вяскоўцаў і канцэнтруюцца вакол падвалінаў іх культуры — працы земляроба і каталіцкае веры. Глыбей зразумець вясковыя супольнасьці Беларусі, якія завуцца польскімі, здаецца немагчымым без дасьледаваньня дзейнасьці гэтых інстытуцыяў — іх функцыяў у практычным жыцьці ды, перадусім, у сьвядомасьці калгасьнікаў.

Выходным пунктам развагаў я прымаю сфармуляванае Людвікам Стомам самаакрэсьленьне польскага “хлопа” на пераломе XIX/XX стагодзьдзяў, якое складаецца з трох частак: 1) *я тутэйшы*; 2) *я “хлоп”* (земляроб, мужык); 3) *я каталік*. У сучасных жыхароў калгасных вёсак на Гарадзеншчыне гэта мае адпаведнік у неразрыўным трохкутніку “тутэйшы — калгасьнік — паляк”.

Першым элемэнтам трыяды я тут займацца ня буду. Да другога зараз перайду. А вось трэці патрабуе кароткага камэнтару.

“Паляк” — адно з ключавых панятцяў духоўнага элемэнту культуры гарадзенскіх вёсак. Пераважная большасьць нашых суразмоўцаў “паляка” разумее як сынонім *каталіка* і, тым самым, антонім *праваслаўнага*, гэта значыць, *беларуса*, альбо *рускага*. Паляк для вяскоўцаў — гэта жыхар Беларусі, які вызнае каталіцкую веру (“лічыцца палякам”). Найчасьцей у савецкіх дакумэнтах ён запісаны як паляк (“пішацца палякам”). Такое разуменьне акрэсьленьня *паляк* адносіцца, такім чынам, не да самасьвядомасьці ў сэнсе прыналежнасьці да нацыі, а да рэлігійнай прыналежнасьці. Як паказаў Л.Стома, у земляроба-“хлопа” крытэры культурнай ідэнтыфікацыі ня маюць нічога супольнага з нацыянальнай ідэяй. І дасьледчык пачуцьця самасьвядомасьці жыхароў гарадзенскіх вёсак лёгка знаходзіць — пераважна сярод старэйшых людзей — жывое адлюстраваньне ў постсавецкіх рэаліях той самай самаідэнтыфікацыі вясковага люду з пэўнай рэлігійнай групай пры адсутнасьці пачуцьця нацыянальнай повязі. Тое самае, што зь літаратуры вядома пра даўно мінулыя часы. Ужыванае ў вёсках Гарадзеншчыны самаакрэсьленьне “паляк” нельга прымаць за тэрмін “*Polak*” у літаратурным значэньні, гэта значыць, акрэсьліваючы менавіта нацыянальнасьць: “чалавек польскай нацыянальнасьці”, “з Польшчы родам” (*W.Doroszewski, “Słownik języka polskiego”*). Каб выразьней адрозьніваць, я пішу гэтае “*polak*” у значэньні “каталік” з малое літары — гэтаксама, як мы пішам “каталік”, “праваслаўны”, “мусульманін”, “баптыст” і г. д. *(Ад перакладчыка: паводле польскага правапісу нацыянальнасьць чалавека пішацца гэтаксама, як яго імя і прозьвішча — зь вялікай літары: Polak, Litwin, Białorusin.)*

Жыхары калгасных вёсак не ўяўляюць сабе жыцьця без калгасу. Наш праваднік па “базе” і “фэрме” калгасу “Сьветлы шлях”, 23-гадовы тэхнік, геніяльна выказаў гэтую паўсюдную на вёсцы думку ў трох словах: “Мусіць быць калхоз. Без калхозу прападуць людзі”. Пароль “калхоз мае быць” разносіцца кругом, як рэфрэн — ці як замова, закляцьце?! Гэтак кажа прадстаўнік улады і просты калгасьнік, стары пэнсіянэр і падлетак са школы.

У сабраных намі размовах (а гэта сотні запісаў!) знайшлося толькі *адно* выказваньне суразмоўцы, які думаў інačай — што калгасы могуць і нават павінны быць распушчаныя: *ну, хіба мае да таго дайсьці, што іх* (калгасы — **пер.**) *параскідаюць... Такі аграмняга, як наш калхоз, то ён добра не спраўляецца, бо начальнік адзін, за ўсім даглядзець ня можа: трэба нешта рабіць, трэба. Калхоз у нас задужы... Уся ваверкаўская парафія ў адным калхозе; занадта вялікі калхоз. То ён мае быць раскіданы; можа, тут фэрмэры нейкія будуць, можа што... Ну, бо мае быць неяк так, каб тое сваё было, от, каб было сваё і гаспадар быў... Так быць і мае і так будзе.*

> *Калгас арганізуе ўсё жыцьцё калгасьнікаў цалкам. Дае працу, дае жыльлё (“калхозныя кварціры”). Дае транспарт (“калхозны аўтобус”). Дае збожжа, муку, цукар. Дае газ, будуе дарогі і “клубы”.*

Але спытаем: *чаму* калгас мае быць? Здавалася б, адказ вельмі просты: бо *ня можа* ня быць. Бо ён быў накінуты прымусам, бо падтрымліваецца аўтарытарнай уладай, бо няма ніякай магчымасьці зьмяніць што-небудзь міма волі тае ўлады. Але такі адказ павярхоўны. Бо застаецца яшчэ глыбока ўкаранёны фэномэн прыняцьця тае калгаснае рэчаіснасьці. А гэтае прыняцьце здаецца паўсюдным: ня толькі “наверсе” (нічога дзіўнага, калі “калхоз мае быць” кажа сп-ня прадсядацель сельсавету, якая сядзіць у кабінэце пад партрэтам прэзыдэнта), але — і гэта найважней – так кажуць “нізы”. Такая акцэптацыя калгасу існуе, нягледзячы на пачатковы (у 40-я і 50-я гады – **пер.**) рашучы супраціў і адпор калектывізацыі вёскі, існуе побач з трагічнымі ўспамінамі, існуе пры зусім не ружовым поглядзе на той калгас і яго рэаліі. Хоць самі калгасьнікі кажуць: *мы не жывем, мы гніем*. Альбо: *у калхозе — сьцеражы Божа*! І адначасова робяць усё, каб толькі выпхнуць дзяцей у места ці хоць у мястэчка: *так бардзо трудна было... То як дзеці пачалі падрастаць, то з астатніх сіл, то падушыліся патроху, то так, то гэтак — і абы не было тут дзяцей.*

У разуменьні такога “фэномэну прыняцьця” можа дапамагчы дасьледаваньне яго каранёў: збор пераканацьняў, нормаў, містычнага зьместу і законаў мысьленьня, якія разам ствараюць *супольную несьвядомасьць*, альбо інačай *мэнтальнасьць калгасьніка*.

У калгасных вёсках кружыць анэкдот-загадка: як прачытаць скарачэньне К+М+В, якое паўсюдна пішуць на дзьвярох і вокнах хатаў пасьвячонай у касьцёле крэйдай на сьвята Трох Каралёў? (*Гэта ініцыялы трох каралёў, што першымі прыйшлі пакланіцца Хрысту. –* **пер.**) — *То як Саветы тутай прыйшлі, а на каждым доме так напісана, то па-руску расшыфроўвалі “калхоз мусі быць”.* Можна зразумець гэты анэкдот ня толькі як іранічнае сутыкненьне і падабенства словаў, але і як своеасаблівы запіс гісторыі сутыкненьня дзьвюх рэчаіснасьцяў: парадку традыцыйных вартасьцяў вясковага сьвету, што праяўляюцца ў рытме “праца-сьвята”, з сыстэмай, варожай яму, якая накідае свае правілы жыцьця. Гэта сутыкненьне *sacrum* і *antisacrum*, парадку і антыпарадку, космасу і хаосу.

Калі з гэтага пункту гледжаньня прааналізаваць апавяданьні нашых суразмоўцаў пра пачаткі савецкай улады і калгасаў, можна лёгка заўважыць, як апавядальнікі — менш ці больш сьвядома — спасылаюцца на архетып вечнага супрацьстаяньня Дабра са Злом, які ў сваёй хрысьціянізаванай вэрсіі выступае як барацьба Бога з Д’яблам. Непасрэдна так выглядаюць успаміны пра тое, як “закрылі (забаранілі) веру”:

*...як зайшла тая савецка ўласьць, то яны крыжы пілавалі, нішчылі... То камунізм быў страшны такі, вшыстка ў сваіх рэнках трымаў. І веру былі зупэльне скасавалі... Оні як пшышлі, то касьцёлы, ксенжы ўярмілі; вывозілі, судзілі, па дзесеньць лят ксендзам давалі... То можна паведзець, то ня жонд савецкі, то пекло з пекла!*

Ува ўспамінах пра арганізацыю калгасаў ды ўвогуле жыцьцё “пад камуністамі” гэты архетып выступае больш прыхавана, але таксама заўважна — напрыклад, ёсьць эсхаталягічныя матывы, такія, як вечныя пакуты ці вечнае пракляцьце: *Як тутай калхоз зрабілі — то загубленыя мы на векі векув. Прыйшлі, загубілі нас... Наша ўсё яшчэ камуністы трымаём. Ту яшчэ камуністы... Як Лукашэнка возьме на другі раз — прапалі мы назусім.*

У традыцыйны сялянскі сьвет уварваліся тэрор і няволя. Моўныя сродкі выразу (рэфрэн “усё забралі”, частыя заклікі да Бога, Езуса, Маці Божай ды лексычныя і фразэалягічныя запазычаньні з Эвангельля), якія ўжываюць суразмоўцы, калі апавядаюць пра тыя падзеі ды зьвязаныя зь імі перажываньні, беручы іх са стылізаваных рэлігійных тэкстаў ды скаргаў-плачаў, сьведчаць пра наймацнейшае напружаньне эмоцый, але таксама і пра тое, што падзеі ў аповедах адбываюцца як быццам да містычных падзеяў, да пакутаў Хрыста, да няволі Зла:

*— Прыйшлі нашы “асвабадзіцелі”... Вшыстко забралі, вшыстко, толькі дзе якая кароўка засталася. Зямлю забралі. Зямлю забралі, коні забралі, воз забралі, ну ўсё... І хлеба няма, і збожжа забралі, і зямлю забралі, і ўсё забралі. Усё, што да гаспадарства трэба: плугі, бораны, коні, стадолы. О, як цяжка было. Той калхоз. Парастрэсена ўсё было, жаднага ладу не было. Забралі ўсё, на Расею павыцягалі... Палкамі білі, абіралі, судзілі — о, як было! Забіралі і каровы, і коні: усё. Забяруць, значыць, да сельсавету — “пішыся ў калхоз!”, і ўсё. Мусіш пісацца. Оні самі запішон, але руку сваю мусіш прылажыць, о ту — ну, дзе ж, няма рады, ніц ня зробіш пад палкай. Шукалі толькі якой прычыны, абы задушыць чалавека... Плакалі крывавымі лзамі і добравольне шлі... пайцякалі б ад Саветаў, каб свабода была... Ну, у калхозе тым працуеш, і што мы зараблялі ў тым калхозе... за рок то я зарабіў толькі дзевеньцьдзесёнт шэсьць кіле ячменю, венцэй ніц. Жыта на хлеб не было...*

Пасьля пачатковага тэрору сыстэма ўлады паступова зьмякчаецца. Аплата за працу ўжо робіцца ня толькі натуральнай — калгасьнікі пачынаюць атрымліваць грошы, потым пэнсіі; яны больш не прыпісаныя да калгасу, маюць пашпарты, як усе грамадзяне. Потым прыходзіць час адноснага дабрабыту — з настальгіяй узгадваюць пра часы кіраваньня Брэжнева: *Ох, як было трудна спачатку, ох, як было... Да шасьдзесёнт хіба шустэго року. Юж як перайшлі на пенендзы працаваць, юж цось, юж льжэй, льжэй і льжэй... бо нешта прадасі, нешта купіш, на хлеб заробіш... Юж можна цось. І пайшло льжэй, льжэй і льжэй. І юж.*

Нарэшце, наступае перелом: “дазвол веры” ў часы Гарбачова: *Гарбачоў ужо быў, то ён паехаў да Амэрыкі, за граніцэ там вшэньдзе, там яму паведзелі, што мы тут у Бога верым — і ён прызнаў, аж паехаў да Папы Рымскага. І ён ужо даў веру.* Час Гарбачова нават зьмяніў вобраз ворага — савецкай улады: *Ест закон, што бязь веры і конец. Тэраз даперо, як Гарбачоў прыйшоў, сталі прызнаваць праваслаўную веру.* Антысакральнасьць тых, хто перасьледаваў Бога, зьмяніла знак зь мінуса на плюс. Адчыніліся забраныя і зруйнаваныя касьцёлы і цэрквы: *Бо тэраз юж далі права, у што можна верыць.* І гэтае права абазвязвае на практыцы мясцовыя савецкія і калгасныя ўлады — ніхто больш не забараняе і ня робіць перашкодаў вернікам у адкрытай рэлігійнай практыцы.

Зь цягам часу ўсё больш выразным робіцца адзін з аспэктаў “фэномэну прыняцьця”: *прызвычаеньне* да калгасу. *Тутай, як вруцілэм з Расеі* (з высылкі — **пер.**), *то зараз калхоз зрабілі. Забралі ўсё: каровы, стадолы, спіклежэ пабралі, пабралі і коні, і возы, і плугі, вшыстко пабралі і ніц не было. Ценжка жылося, а потэм прызвычаілі се мы. Потэм ужо цалэ жыце ў калхозе.*

З прызвычаеньнем да чагосьці нямілага звычайна атаесамляюцца такія рысы характару, як бязьдзейнасьць, пакора, бясьсільле. З такога пункту гледжаньня найбольш распаўсюджаны калгасны рэфрэн “а што тут зробіш? Нічога ня зробіш!” трэ было б разумець перадусім як праяву нездольнасьці. Але гэтаксама лёгка ўбачыць у ім выраз прагматычнай пазыцыі, якая вынікае зь вельмі рэалістычнай ацэнкі становішча. Паколькі адпор і супраціў быў зламаны новай сыстэмай, застаецца цярпець і трываць пры тым, што ацалела і не было зьнішчана, альбо — проста трываць і цярпець, бо гэта само жыцьцё. Моц *antisacrum* перавярнула дзьве асноўныя падваліны сялянскай культуры: працу і веру. *(Пан Бог казаў: рабі, а я памагу. А пры такім жоньдзе то будзеш рабіць, сам сябе ў дошкі загоніш, а зарабіць то ніц заробіш).* Аднак не была зьнішчана найважнейшая вартасьць, безь якой ня маюць сэнсу ні праца, ні вера — само жыцьцё *(Як Пан Бог даў жыць, то трэба жыць памаленьку.)* Каб жыць, каб выжыць, каб пережыць — трэба дастасавацца. І прыстасавацца. У рэфрэне “што зробіш?” гучыць менавіта прадыктаваная самім жыцьцём *згода зь лёсам:*

*— А што зробіш? Як кажуць, на чыім возе едзеш, таго і песьні сьпяваеш. Бо што зробіш? Хочаш жыць — умей вярцецца. А дзе падзенешся? Многа наплюеш проці ветру?..*

**Працяг на старонцы 10.**

# Палякі-калгасьнікі



ДЗЯНІС РАМАНЮК

Працяг са старонкі 9.

*Судзьба наша така, жэ тутай Саветы пшышлі і мы тутай радзілі се пшы іх — і мы жыем, і мы мусім.*

Такая згода зь лёсам, як і бязьдзейнасьць, сьведчыць аб прызнаньні парадку, які кіруе гэтым сьветам. А парадак той стаяў і стаіць на тым, што на самым версе любой гіерархіі стаіць Пан Бог, які стварыў усё і кіруе ўсім. *Як Пан Бог дасьць, так і бэньдзе.* І з поўным спакоем апытаныя пакідаюць на Пана Бога клопат пра ўсё, што знаходзіцца па-за іх уласным вопытам, ведамі і нават уяўленьнем, фантазіяй: *а Бог яго ведае... дзенькі Богу якось пшэжывамы... то, кахана, вшыстко Пан Бог робіць: і тыя пенендзы, і тых людзей...*

*То Пан Бог спаслаў ушыстка. Так Сібіля пісала. То ўшыстка ідзе па тым, як апісала. Бо ў нас па-беларуску гаварылі: як будзя народ мудры, будуць гараць межы кудры, а як прыйдзе ліхая доля, пакінуць рабоча поля. Як Сібілю ўзяць, так усё так ідзе, як у нас ідзе. Ушыстцы спэлненя, як зь Сібіліі ўзяць: як бэндом, прімерно, пусткі вырабляць, як тэ калхозы будуць, усё... А, мові, хлеб як быў дарагі, так дарагі і будзе... Межы касаваць будуць, пусткі вырабляць, а хлеб як быў дарагі, так дарагі і будзе...*

Паводле Людвіка Стомы, адным з правілаў, што датычаць самасьвядомай ізаляцыі, а гэта ледзь не аснова культуры "простага люду", служыць простая формула: *як ёсьць, так мае быць.* І тут тое самае — раз калгасы ёсьць, то яны маюць быць. Калгасныя жыхары жывуць на сьвеце, дзе споўніліся *ўсе* прароцтвы Сыбілы. Гэта чарговы аспэкт "фэномэну прыняцьця": згода на рэчаіснасьць, якая выцякае з прыняцьця цалкам містычнага абгрунтаваньня парадку на нашым сьвеце. Такое абгрунтаваньне — пакора волі Пана Бога, а гэтая воля загадвае глядзець на наш сьвет як на месца, дзе збываюцца і спаўняюцца прароцтвы.

*У касьцёле "прадсядацель калхозу" сядзіць на першай лаўцы, а "прадсядацель сельсавету" падае ксяндзу "булку хлеба на белым ручніку". Войт, пан і плябан — адна кампанія*

Цяпер пяройдзем ад містычнай несьвядомасьці да рэальнага жыцьця і разгледзім яшчэ адзін адказ на пытаньне, чаму "калхоз мае быць". На магчымасьць існаваньня калгасу паказвае своеасаблівы сымбіёз калгасу і калгасьнікаў — шырока разбудаваная сыстэма ўзаемных паслугаў і ўзаемнай залежнасьці, якая ня раз прыводзіць да таго, што ўжо цяжка зразумець, ці ёсьць тая мяжа паміж адным і другім, ці яе няма, дзе "людзкае", а дзе "калхознае". Наступны калгасны рэфрэн гучыць так: "калхоз нам паможа — мы калхозу паможам". А можа і наадварот: "як мы паможам калхозу, дык калхоз паможа нам". Калгас арганізуе і ахоплівае ўсё жыцьцё калгасьнікаў *цалкам.* Дае працу, дае жыльлё ("калхозныя кварціры"). Дае транспарт ("калхозны аўтобус" — часта *адзіны* транспарт увогуле, праўда, калі ёсьць паліва). Дае недаступныя альбо задарагія на рынку тавары (збожжа, мука, цукар). Дае газ, будуе дарогі і "клубы". "Людзкая" маёмасьць можа лёгка зрабіцца "калхознай" і наадварот: можна прадаць калгасу сваю карову і можна ў калгасе купіць сабе карову, а пад час арганізацыі калгасаў здаралася нават, што можна было аддаць калгасу сваю карову, а за яе атрымаць, напрыклад, ужо адабраную стадолу. Калгасныя каровы пасьвяць і даглядаюць калгасьнікі, што працуюць на фэрме, а "людзкія" каровы пасьвяць усе сем'і калгасьнікаў па чарзе, не выключаючы і сям'і старшыні калгасу. Калі калгасныя каровы хварэюць, то вясковая "бабка"-знахарка едзе на фэрму і шэпча над імі свае замовы. Калгасных коней калгасьнікі трымаюць ува ўласных стайнях — бо той самы конь працуе і для калгасу, і для людзей. Усе пагалоўна аполваюць калгасныя буракі ў абмен на калгаснае сена для сваіх кароваў (праца пры бураках абавязковая, а хто ня хоча, то ня будзе мець сена) і... ад пачатку заснаваньня калгасаў усе пагалоўна паціху крадуць калгасную маёмасьць (найчасьцей здараецца "вынас" збожжа для сваіх курэй і сьвіней), пры гэтым ледзь не дэкляруецца адкрыта, што хоць увогуле красьці то грэх, але красьці збожжа для курэй то ніякі ня грэх. Больш таго — калгасная "машына" ("грузавік") спаўняе ролю катафалку на кожным вясковым пахаваньні; калгасныя ж "машыны" адвозяць дэлегацыі пілігрымаў да польскай мяжы і завозяць будаўляныя матэрыялы на новы мур каля касьцёлу, які будуе разьбітны пробашч; калгас і бульбу ксяндзу пасадзіць. (*Некалі ксяндзы зямлю мелі... і каровы свае ксёндз меў, і коні. Цяпер ужо няма. Тольку калхоз бульбы пасадзіў ксяндзу, от там, пару сотак, каб ужо ня ўмёр.*) Дырэктар саўгасу дае дошкі на адбудову капліцы і бляху на дах царквы, а з другога боку, пад час дажынак, у касьцёле "прадсядацель калхозу" сядзіць на першай лаўцы (*Як некалі паны* — **пер**.), а "прадсядацель сельсавету" падае ксяндзу "*булку хлеба на белым ручніку*". *Булку хлеба на белым ручніку падаваў прадсядцель сельсавету Ёдка. Прадсядацель калхоза Саладзінскі і Блуднік з раіспалкому сядзелі ў першай лаўцы. Оні вшыстко палякі.* Калгасны сымбіёз абдымае, як бачым, ня толькі людзей і калгас, але таксама сельсавет і касьцёл. Пан, войт і плябан — адна кампанія. Фэномэн такога доўгага трываньня *фэўдальнай мадэлі* ня можа не прыцягнуць увагі дасьледчыка — тым болей, што, як этнографы XIX стагодзьдзя гасьцявалі на панскіх дварах, так у сучаснай Беларусі этнограф (калі ня мае старых знаёмых) — госьць калгасу, а часта таксама плябаніі і школы: гэта "прадсядацель калхозу" дае яму кватэру і транспарт, частуе абедамі, а часам запрашае да сябе ў дом на пляшку гарэлкі і спавядаецца: *Цяжка жывецца краснаму памешчыку.*

Бо ўсё цяжэй кіраваць калгасам у часы ўсё больш глыбокага крызысу. Бо калгасныя ўлады, як і простыя калгасьнікі, перакананыя, што *як распадзецца "калхоз", то найбардзей людзі пацерпяць. На людзях адаб'ецца. Чалавеку аднаму цяжка. Аднаму горш, чым у калхозе. Чалавеку ў калхозе лепей.*

Але здаецца, што пакуль прэзыдэнтам Беларусі будзе Аляксандар Лукашэнка, нічога калгасам не пагражае: *он об людзёх стара се, жэбы жылі. Жэбы не Лукашэнка, то, ве паненка, тутай... і колхозы роспэндзілі б, і толку б не было, і земя не была б орана, і была б глодувка. А так калхозы і даюць, і пасеюць, вшыстко зроблена. На Літве няма калхозаў — і толку няма.*

Мае назіраньні і разважаньні мелі прычыніцца да партрэту паляка-"калхозьніка". І магчыма, што партрэт таго "калхозьніка" атрымаўся — але дзе тут партрэт паляка?

Напэўна, дзеля гэтага трэба адзначыць наступнае: папершае, каталіцызм нашых суразмоўцаў ("польская вера", неадрыўная ад польскай мовы ў малітве), факт запісу ў савецкіх пашпартах "нацыянальнасьць: паляк" ("пісацца палякам"), нарэшце, польская мова (няхай сабе з акцэнтам ды мноствам беларусізмаў ды саветызмаў!), у размове з госьцем-этнографам (хоць гэта не зусім адметная рыса, бо на Гарадзеншчыне амаль што ўсе жыхары старэйшага веку, у тым ліку і беларусы, добра памятаюць папольску з даваеннай школы і войска). Але — што яшчэ?

Здаецца, "*быць палякам" — гэта толькі малая частка ад "быць калгасьнікам"*: па сутнасьці, у Беларусі мы сустракаем *калгасьніка-паляка* — а не наадварот! А яго сусед на тым памежжы — *калгасьнік-беларус*, а не наадварот... Адзін і другі — гэта перадусім *тутэйшы чалавек і мужык, калгасьнік* — і гэтыя рысы куды болей іх лучаць, чым розная вера дзеліць. І каталікі, і праваслаўныя на Гарадзеншчыне належаць да супольнасьці, якой *прыходзіцца жыць на месцы пры каждай уладзе. Пры паляках, і пры немцах, і пры саветах. Оні вшыстко жывуць на месцы. Разам і палякі, і беларусы... й яны там памешаныя — і жывуць.*

Дасьледчыкам часта здараецца пачуць у адказ на пытаньне пра адрозьненьні паміж каталікамі і праваслаўнымі, палякамі і беларусамі, такое: *Не. Не! Тое самае. Такі самы калхоз, такое самае жыцьцё.* Альбо: *Цяпер зраўнялася... дужа ёсьць беларусаў і рускіх; ну то гаварым зь імі па-беларуску, бо мы так, як брат зь сястрой. Вот так і мы зь імі, з рускімі і беларусамі, вшыстке адзінакава жыем добжэ... Вшыстко пошло в едно.*

Для польскіх дасьледчыкаў палякаў у Беларусі найважней, на мой погляд, не забываць пра тое, што большасьць тых палякаў — гэта калгасьнікі. А калі ўжо мы дасьледуем калгасьнікаў, то трэба ўсьвядоміць, што катэгорыя "калгасьнік" *шырэйшая,* чым "паляк" ці "беларус", "каталік" ці "праваслаўны", бо і "каталік-паляк", і "праваслаўны-беларус" — усе калгасьнікі. Таму дасьледаваць ў вёсках на Гарадзеншчыне каталікоў, якія завуцца "палякамі", у ізаляцыі ад праваслаўных, якія завуцца "рускімі" ці "беларусамі", — гэта значыць вырываць прадмет досьледу з уласьцівага яму кантэксту, што ў выніку дае непазьбежныя надінтэрпрэтацыі ды толькі палову праўды.

**Пераклаў з польскай Алесь Чобат паводле *Kultura*, 3/636. — Парыж, 2000.**

**Друкуецца зь невялікімі скарачэньнямі. Запісы зробленыя ў калгасе імя Чапаева (Вавёрка, Лідзкі р-н), у калгасе ў Болцішках (Воранаўскі раён), у калгасе "Сьветлы шлях" у Начы (Воранаўскі раён), у саўгасе "Малое Мажэйкава" (Лідзкі раён), а таксама ў Мыце, Тарнове, Навіцках і Скрыбаўцах.**

## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Arche: Адам Глёбус**. № 5, 2000. — Менск, 2000. — 264 с.: іл. — Наклад 1100 ас. ISSN 1392-9682

*Асьцярожна: Глёбус! Зьвяртаем вашую ўвагу: некаторыя (ня Глёбусавы) тэксты зьмяшчаюць рэчы, якія могуць адмоўна адбіцца на псыхіцы й сьветаглядзе непаўналетніх. Апроч Адама Глёбуса ў "Arche" чытайце: апытаньне "Ці можа старшыня Рады Беларускае Народнае Рэспублікі Івонка Сурвіла стацца прэзыдэнткаю Рэспублікі Беларусі?", "Камасутру" па-беларуску, успаміны Баляслава Грабінскага "Сакольшчына—Горадня—Вільня", нарыс колішняга палітычнага вязьня Аляксея Шыдлоўскага "Васямнаццаць месяцаў у пекле" ды шмат іншага. Часапіс прадаецца ў найбуйнейшых кнігарнях і газэтных шапіках.*

Р.Барадулін. **Як воўк калядаваў**: Вершы, казкі: Для дашкольнага й малодшага школьнага веку; Мастак М.Казлоў. — Менск: Юнацтва, 2000. — 143 с.: іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-05-0329-7

*Найлепшы беларускі паэт для кожнага веку Рыгор Барадулін прэзэнтуе новыя вершыкі для дзетак. Цана — 950 руб.*

**Веснавыя сьвяты**: Дапаможнік для настаўнікаў і выхавальнікаў / Аўтары-ўкладальнікі А.Аляхновіч, А.Лозка; Мастак У.Сытчанка. — Менск: Беларусь, 2000. — 158 с.: іл. — (Бібліятэка народных сьвятаў і прысьвяткаў) — Наклад 3387 ас. ISBN 985-01-0336-1

*У дапаможніку даюцца мэтадычныя парады, як ладзіць гульні і забавы, інсцэнізуючы старадаўнія беларускія вясновыя народныя сьвяты і абрады. Кніга прызначана пэдагогам.*

І.Капыловіч. **Лісты з далёкае чужыны**: Аповесьці, апавяданьні / Для старэйшага школьнага веку. — Менск: Унівэрсытэцкае, 2000. — 383 с. — (Школьная бібліятэка) — Наклад 20000 ас. ISBN 985-09-0364-3

*Пасьмяротная кніга маладэчанскага пісьменьніка, які памёр летась.*

У.Караткевіч. **Дзікае паляваньне караля Стаха**: Аповесьць; Чорны замак Альшанскі: Раман; Прадмова М.Вераб'я / Для старэйшага школьнага веку. — Менск: Мастацкая літаратура, 2000. — 574 с. — (Школьная бібліятэка) — Наклад 27000 ас. ISBN 985-02-0071-5

*Гэтае выданьне адметнае сваёю цаною — усяго 222 руб. за найпапулярнейшыя прыгодніцкія аповесьць і раман.*

А.Ліндгрэн. **Усе нашы дзеці з Булербю**: Проза для дзяцей/ Пераклад з швэдзкае Л.Баршчэўскага. — Вільня, 2000. — 110 с. — Наклад 10000 ас. ISBN 9955-437-04-9

*Творчасьць А.Ліндгрэн вядома беларускім дзецям найперш паводле славутага твору швэдзкае казачніцы "Малы й Карлсан". Лявон Баршчэўскі падрыхтаваў дзеткам сюрпрыз — кнігу "Усе нашы дзеці з Булербю", выдадзеную на добрай паперы і з густоўна аздобленаю вокладкай. Кніга наўрад ці зьявіцца ў кнігарнях, таму ахвочыя набыць яе могуць зьвярнуцца ў менскую сядзібу ТБМ і да прыватных распаўсюднікаў.*

**Мясцовае самакіраваньне: Вопыт Швэцыі**. М.Чудакоў, В.Барысевіч, Т.Бойка ды інш.; Пад рэдакцыяй М.Чудакова / Пераклад у беларускую мову В.Мароза. — Менск: Фінсэрва плюс, 2000. — 146 с. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-6489-14-8

*Кніга прысьвечана мясцоваму самакіраваньню ў Швэцыі, дзе традыцыя лякальнае дэмакратыі мае глыбокія карані. Распавядаецца пра асновы дзяржаўнага ладу гэтае скандынаўскае краіны і разглядаюцца складнікі сыстэмы мясцовага самакіраваньня.*

**Памяць: Гістарычна-дакумэнтальная кроніка Заслаўя**. — Менск: БелТА, 2000. — 464 с.: іл. — Наклад 2500 ас. ISBN 985-6302-24-2

*Гэта плён "сьвята беларускага пісьменства" — прымеркавалі да яго выйсьце кнігі з сэрыі гістарычна-дакумэнтальных кронік "Памяць". Набыць гэтую кнігу можна толькі ў Заслаўі ці ў сядзібе БелТА за 6000 руб.*

Ю.Півуноў. **Настальгія па вечнасьці**: Вершы. — Магілёў: Узбуйненая друкарня імя Я.Сьвердлава, 2000. — 72 с. — Наклад 400 ас. ISBN 985-6568-42-0

*Аўтар прайшоў свой шлях да гэтага зборнічка ад сьлесара-рамонтніка праз дырэктара магілёўскае філіі Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтру да карэспандэнта газэты "Вечерний Могилёв", дзе цяпер і працуе. Выданьне ёсьць на кніжнай выставе ў менскай сядзібе ТБМ.*

**Падрыхтаваў Віктар Мухін**

# Ноч на полі Аршанскай бітвы

Ганна Матусэвіч

— Мама, я паеду з табой на Аршанскую Бітву, хоць сабе ўсю ноч будзем сядзець ля вогнішча!

— Добра, сынку, вазьму цябе з сабой.

Я тэлефаную ў Барань Генадзю Шэпелеву: "Так, бітва адбудзецца. Я даслаў ужо абвестку ў "Нашу Ніву". А вы прыедзеце? Бярэце з сабой цёплую вопратку. А то я апрану".

У Воршу я зьбіраюся ехаць гэтым разам ня столькі дзеля Бітвы, колькі дзеля маёй старэнькай цёці Альдоні (гэта па бацьку), 18-га году нараджэньня, якая разам зь дзядзем Васем гадуе, лічы, круглых сіротаў, сваіх унукаў. Старэйшая Аня, амаль аднагодка маёй Вэранікі, ходзіць у 9-ую клясу, а Дзіна вучыцца ў 8-й. Іхны бацька, а мой стрыечны брат, загінуў, калі майму Міколку быў годзік, і я езьдзіла тады ў Воршу да іх. Надта цяжка мне было ў той час пакінуць сваіх дзяцей, каб неяк прылашчыць сіроты, а мо нават узяць іх у сваю сям'ю, бо мае сямейнікі ўсе былі супраць паездкі. Памятаю — сяджу ноч у поўнай цемры адна і пакутую ў прыняцьці рашэньня, быццам дзіця нараджаю: ехаць — ня ехаць? А 6-й раніцы выпраўляецца цягнік з Койданава. Нарэшце адважваюся, быццам у сьцюдзёную ваду раптоўна скочыла: паеду, чаго б гэта мне ні каштавала! І аднекуль з глыбіні мне насустрач магутным Промнем Сьвятла шуганула Радасьць! Здаецца, усю хату асьвятліла. Гэта была першая Радасьць, пасьля будзе й другая. І вось цяпер, калі ў маёй сям'і ўжо пачаліся звадкі, я хацела, найперш дзеля Вэранікі, насустрач і ейнаму моцнаму жаданьню, падружыць нашых дзяцей, каб яны адчувалі, што яны — Браты й Сёстры папраўдзе. Вэраніка з-за сваёй хваробы ня можа ехаць, дык папрашу Аню, каб тая пісьмо ёй напісала, фота выправіла. Калі спадабаюцца адна адной, пасьля й сустрэцца могуць. Цёцю й дзядзю трэба наведаць, старэнькія ўжо ж. Завязем ім грыбоў, што мы зь Міколкам зьбіралі ўсё лета, устаючы а 5-й раніцы. Падхвалю хлопца, а ён і стараецца ўслужыць мне, як рыцар жанчыне слугуе. Так добра ў гэтае лета сталі складацца нашыя зь ім адносіны! Вось хлопчык і хацеў як бы на практыцы праверыць сваю сталасьць. І добра ўсё адбывалася, хоць і давялося мне папалічваць, покі ўсё залатвіла. Трэба й памяняцца начнымі дзяжурствамі, і грошыкаў здабыць, і шмат-шмат чаго прадумаць да самых драбніцаў. Галоўнае ж: захоўваць да часу ў таямніцы гэтую паездку, бо цяжка рваць путы, слухаць зьвягу-енкі сваіх сямейнікаў. Нарэшце ўсе клопаты ссунуліся з маіх плячэй. Едзем улегцы зь Міколкам першай электрычкай з Койданава да Воршы. А я змалку люблю падарожнічаць у цягніках. Мо перадалося па генах ад маёй цёці Карольці, якая колісь працавала правадніцай. Пабачыліся, добра пагаманілі зь цёцяй Альдоняй ды дзядзем Васем. Толькі дзяцей не дачакалі са школы, сьпяшаліся на Бітву. Ну, няхай, я пакінула ласкавую цыдулку Ані, мо й напіша Вэранічцы, пабачым. І на Крапівенскім полі мне так добра пачувалася. Ужо ж імкнулася дагледзець Міколку і быць толькі зь ім. А то вечна таго часу не стае на дзіця.

— Мама, ты пасядзі са мной, а я буду Пагоню з гліны ляпіць, — просіць часта.

Аднаму яму ня хочацца працаваць. А можа, гэта спрадвечна мужчынскі эгаізм, які ў ім прабіваецца насуперак альтруізму жаночаму? Але я не разважала тады, я імкнулася перахапіць на ляту любое ягонае жаданьне ды ўсьлед выканаць. Але й ён рабіў тое самае. Нам было добра ўдваіх, як двум закаханым. І па полі Крапівенскім мы хадзілі, пабраўшыся за ручкі, што хлопец зь дзяўчынай на вечарынцы. А тут жанчыны са сьпеўнага гурту Аляксея Галіча няспынна разьбіваюць нас: "Спадарыня Ганна, ідзеце да нас на гарбату! Спадарыня Ганна, а Вы напішаце пра нас? Вунь Славамір Адамовіч летась так ужо абяцаў напісаць, а сам зьехаў у Амэрыку".

Я падумаю, — так пераказваў мой адказ жанчынам Міколка ўжо дома, хоць самой мне здавалася, не было ў думках нешта пісаць. Па-першае, я адпачывала, па-другое... Шмат ужо рэпрэсій нацярпелася праз сваю пісаніну ад усіх, а найперш — ад сваіх блізкіх. Муж за тое раззброіў друкавальную машынку, падараваную мне Дзімам Тарулісам. Цяпер вось думаю, пішучы ўсё ж накіды алоўкам на дыжурстве, што прыйдзецца пісаць (а пісаць прыйшлося, бо Вэранічка дый Міколка параілі мне паслухацца гэткіх слаўных жанчынаў!) крамзолямі ад рукі. Мо хлопцы-нашаніўцы штось разьбяруць па старой звычцы, калі друкавалі некалі мае гарачыя рукапісныя дзёньнікі? Таму й зьехаў Славамір у Амэрыку, што напісаць пра жанчын ня мог, хоць, здаецца, і пісаў пра тое лепш за іншых. Але кожны з нас робіць сваю справу. Ах, любыя жанчынкі! Дзякуй Вам за пачастунак! Добра, добра ў Вас, але нам хочацца пабыць удваіх з сынам. Мы пойдзем бадзяцца і сустрэнем Валерыю Чарнаморцаву зь Петрапаўлаўскага Брацтва, што была з намі на фэсьце ў Лявонпалі. На гэты раз яна не адна, разам са сваімі сябрамі. Пытаецца ў мяне, ці будзе праводзіцца праваслаўная імша? Я перапытваю ў Ларысы Кудраўцавай, і тая адказвае, што ня будзе, штось ня зладзілася ў іх. Валерыя надзімае шчокі: "Нас не дабраславілі!" Ах, Валерачка, пакіньце гэтую позу! Гэта ж так проста! Заплоціце насільшчыкам, і вашыя рэчы з паклонамі вынесуць на карабель, і вы рушыце ў вялікае плаваньне...

А Міколка так марыў пасядзець ля вогнішча і паесьці смажанае на кіёчку сала! Пайшлі хутчэй! Цяпер там нікога няма і чутна: жанчыны гукаюць, што "панесьлі Алеся Пушкіна". Гэта яны пайшлі на ягоную выставу, забароненую ў Навагрудку. Хай ідуць, а я ж не магу падмануць такіх даўніх спадяваньняў дзіцяці! Я падаю Міколку кіёчак ды ўзятыя з Галічавай посьцілкі кавалачкі сала й хлеба. І раз, і другі. Ён смажыць, есьць са смакам, пасьля ўсё падкідае сухую траву, трэсачкі ў вогнішча. Так любіць ён, калі ўспыхвае ярка агеньчык. А я міжволі слухаю расейскія песенькі, ня ўзмоцненыя мікрафонам, хлопцаў, што сядзяць побач. Здаецца, я не памылілася, што не пайшла на Алеся Пушкіна, бо гэта ўжо афіцыёз, прынамсі, на гэтым Крапівенскім полі, а гэтыя расейскамоўныя хлопчыкі з гітарай — праўда жыцьця, якую глушаць. Вунь як яны рэфрэнуюць: "Я не люблю слушать ложь, но от правды я тоже устал!" Ну што рабіць зь імі? Мо проста даць ім час для стомы, а самім працягваць сваю справу. Так і зраблю. На гэтым полі толькі я і мой сын, і мне трэба зрабіць, каб яму было добра. А мне ўсё ж хочацца паглядзець, што адбываецца там, на сцэне, і Міколка цяпер выконвае маё жаданьне.

Прыйшлі краёўцы, маладзенькія хлопчыкі ў форме, набілі бутэлек, пасьля хадзілі па шкле босымі, і адзін голай сьпінай клаўся на шкло. Міколку гэта ня ўразіла, і Вэраніка дома сказала: "А, гэтак, як у цырку".



**Ганна Матусэвіч (справа) са сваімі дзецьмі і бабай Зоняй**

Якраз як я некалі сказала пра Славаміра, што зашыў сабе рот. Дзеці, вартыя маці, так і павінна быць. Яны ў мяне даўно дарослыя, я ж казала ўжо.

Зьміцер Бартосік на сцэне. Ну й добра сьпявае. І чаго гэта я, дурніца, напала калісь на хлопца, абазваўшы яго "пярэваратнем"? Можа й пакрыўдзіўся ён трохі, але ня надта, бо разумеў, мусіць, якая я жыжалка. Добры, добры ён хлопец, але ў нашай справе мо гэтага й малавата.

А калі сьпяваў Андрусь Мельнікаў усе свае старыя добрыя песьні, Міколка ўсё мацней мяне тузаў, прасіўся спаць. Песьні Мельнікава мне даспадобы, але сын нашмат даражэйшы. Ідзем спаць у намёт. Хоць і апрануліся мы цёпла на гэты раз, усё ж спаць халаднавата. Абняла Міколку, каб яму было ўтульней, а ён, нарэшце дамогшыся свайго, адпускае мяне: "Мама, ты можаш ісьці хоць на ўсю ноч, я магу адзін спаць".

...

Пахадзіла ды зноў легла. Дзе ж тут засьнеш? Сьцюдзёна і думкі ўсякія неспакойныя лезуць у галаву. На сцэне ўжо ўключылі NRM ды скачуць пад музыку, грэюцца. А мне сёньня ўжо на дыжурства. Хоць бы трохі заснуць, каб ашчадзіць сілы, бо мінулыя дзьве ночы запар амаль ня спала, рыхтуючыся да гэтай вандроўкі. Замоўлены аўтобус прыйдзе толькі а 8-ай, каб адвезьці нас на другую электрычку на 8.50. А першая а палове пятай ідзе. І добра было б пасьпець на яе. Ды дзе там! Раптам чую знаёмы голас у палатцы: "Ганна, сьпіш?"

— Што, Генадзь?

— Я знайшоў табе аўтобус зараз ехаць. Хадзем, пазнаёмлю цябе з Арынай Вячоркай.

(Як быццам я зь ёй незнаёмая! Ці яна са мной! І мінулы ж раз быў нутраны інцыдэнт...) Як быццам знаёмімся з Арынай, як быццам я пытаюся пра ейную Ружану, а ўсё тая ж высокая сьцяна між намі. Можа, ёй не дазваляе афіцыйны "мундзір" мужа ці свой уласны прызнаць мяне за сваю? А можа... я павінна быць удзячная ёй за сьцюдзёную сьцяну між намі? Я ж ведаю, што прызнаньне — гэта канец, сьмерць. Лепш быць вось такой непрызнанай і казаць заўсёды Праўду. Можа, ад такой Праўды не стамляліся б тыя расейскамоўныя хлопчыкі?

Шафёр збунтаваўся і ня хоча браць "посторонних" людзей у аўтобус. Чуваць голас патрыёта, "каб не камандавалі маскалі". Нарэшце Арына наказвае, што яна тут гаспадыня: "Мама Севярына Квяткоўскага, заходзьце! І зь дзіцем, садзіцеся". Яна не прызнае мяне ніколі, бо мы працуем паралельна ды пэрпэндыкулярна. Проста галовы пахіліліся паралельна адна да другой, быццам драты абвісьлі і ім, афіцыйным беларусам, спатрэбілася мая Праўда.

Даруйце, любыя Жанчыны з Галічавага сьпеўнага гурта! Пра Вас я й не напісала. Добра Вы трымаецеся адна за адну і падтрымліваеце свайго кіраўніка. Так і павінна быць у праўдзівым Брацтве. А можа, лепш было б назваць Сястрыцтвам, бо пераважна тут, як і скрозь, па жаночым баку. А я, як заўжды, пішу пра сябе.

Генадзя пры разьвітаньні прашу, каб паглядзеў за Ларысай.

— А што яе глядзець? Калі сама за сабою глядзіць! На іх дваіх і трымаецца ўся гэтая Справа. Зрэшты, Справа заўсёды трымаецца на Дваіх. І калі яны роўныя, Ён і Яна, Справа абавязкова ўтрымаецца. Гэта ж Хрыстос адказаў 2000 гадоў таму назад на пытаньне Саламеі — "калі прыйдзе валадарства Тваё". — "Калі два будуць як адно, калі мужчынскае будзе жаночым і калі ня будзе ні мужчынскага, ні жаночага".

І Ларыса гэта добра разумее. Праводзіла нас зь Міколкам да аўтобуса, выбаўтала ўсе свае сакрэты, якія ні для кога не сакрэты (ото ўжо доля жаночая ў нашым Адраджэньні!) і сьцьвердзіла на маё сьцьверджаньне: "Я ведаю, усё ад Бога!" Ну, то й дай нам, Божанька, сілы перамагчы і выйсьці жывымі з гэтай Бітвы! Галоўнае — пасьпець сказаць, а вынікі — пакінем Богу. Я сказала.

# У нядзельку параненька

Працяг са старонкі 1.

Накіравалася працэсія да вялізнага памятнага крыжа, укапанага на самым высокім пагорку, каля якога ўжо раскладалася вогнішча. «Куды гэта яны?» — запытаўся сябра. «Маскалёў павялі. На ачышчальны агонь інквізыцыі» — адказаў я.

Тымчасам на паляне на імправізаванай сцэне ўжо пачынаўся бардаўскі канцэрт. Андрэй Мельнікаў пахаджаў сярод народу ў вялізным цыліндры, пашытым з брытанскага сьцяга. Былі Зьміцер Сідаровіч, Лера Сом, Ігар Мухін. Мікрафон быў. І ўзмацняльнік таксама. Але вось дроту, якім іх можна было б злучыць разам, не знайшлося. Таму назваць сьвята фэстам бардаўскай песьні было б не зусім слушна. Але сьвята — гэта не абавязкова спраўныя мікрафоны. Нашы старыя песьні і безь мікрафонаў гучаць тут, як нідзе, дарэчы.

Самым цікавым удзельнікам фэсту стаў ня бард, а Алесь Пушкін. Мастак зьявіўся ў вобразе манаха. Пад гатычную музыку і пад маўчаньне прысутных ён пачаў паволі распранаць прынесеныя загадзя пастаці. Нам адкрыліся драўляныя скульптуры. Нейкія камандоры з жахлівых сноў. Адзін зь мячом, утыркнутым у зямлю, другі без галавы. На плячах безгаловай істоты сядзела нейкая драпежная птушка — як мне здалося, сокал. А манах тымчасам пачаў здымаць саван зь першай фігуры, што ляжала на зямлі. Мы ўбачылі аголеныя жаночыя ногі. Пасьля манах адхінуў саван з другой ляжачай постаці. Суседзтва вялізных драўляных ступакоў, што адкрыліся з-пад тканіны, і жывых ног стварала просьценькі, але моцны эфэкт жаху. Манах тым часам распрануў постаці цалкам. Прыгожая маладая жанчына ў чорнай сукенцы спала побач зь бязрукім князем. Манах пачаў акрапляць іх жывою вадой. Але зруху не было. Тады пагледзеў удалячынь па-над нашымі галовамі. Мы ўсе павярнуліся й застылі. На гары ля Крыжа памяці палала вялікае вогнішча. Па-над ім лунала некалькі вялізных бел-чырвона-белых палотнішчаў, а перад ім чарнелі постаці людзей. Відовішча неверагодна прыгожае. Жанчына ажыла...

Пасьля пушкінскага пэрформансу з агню, дрэва, жалеза й беларускіх колераў прыйшоў шыхт арганізацыі «Край». Сябраву відэакамэру захінула палотнішча сьцяга. Скамандавалі — «Не здымаць!» Краёўцы паказалі свой пэрформанс. З кідкамі, ударамі й таптаньнем басанож па бітым шкле.

Народ пачынаў выпіваць за перамогу, у розных канцах поля запалалі вогнішчы й загучалі гітары. Беларускія скаўты зь бела-чырвонымі гальштукамі рыхтаваліся да сьвяточнай вячэры.

Лепшае, што можна было сказаць пра выступы бардаў — усё было як заўсёды. Хіба што я быў крыху незадаволены, што не пабачыў некаторых старых сваіх знаёмцаў. Хіба што мой сябра – наадварот — быў задаволены, бо ўсё чакаў, калі Андрэй Мельнікаў пачне губамі імітаваць трубу. Выглядала, што менавіта дзеля гэтага эксцэнтрычнага моманту і ехаў ён на Крапівенскае поле. Зрэшты, здаволіўся, і тое важна.

## аб усім патроху

### НЕ ТБМ ЗА КАМЭРЦЫЮ, ДЫК КАМЭРЦЫЯ ЗА ТБМ

Адзін мой сябар увесну неяк купіў на Румянцава, 13 кніжку зь біблейнымі паданьнямі для дзяцей за мільён рублёў, а назаўтра пабачыў акурат гэткую ж ксёнжачку на сядзібе БНФ, толькі цана яе была меншай удвая. Дык я не зьдзівіўся, калі пабачыў на Румянцава, 13 у продажу налепкі "Абаронім наш край", што ў прынцыпе вісяць на многіх сьценах задарма. У сядзібе ж ТБМ яны каштуюць 350 рублёў. Беларуска-расейскі слоўнік Некрашэвіча і Байкова тутака мае цану 2800 рублёў, тады як на сядзібе БНФ - 1540... Паспаліты люд жа, прыехаўшы з правінцыі ў амаль сьвятое для кожнага беларуса месца, знаходзіць там крамку, дый, ня гледзячы на кошты, купляе. Я й сам меркаваў, што названая экспазыцыя належыць ТБМ, і думаў, мо большыя кошты - гэта грошы на нацыянальную культуру. А аказалася, гэта ўсяго толькі прыватная ініцыятыва аднаго панка, а Таварыства Беларускай Мовы - арганізацыя некамэрцыйная і проста дае стол для выставы кніг. Ну што ж, калі ТБМ не ўзялося за камэрцыю, то камэрцыя ўзялася за ТБМ.

**Язапат Змысла, Менск**

### ДУБАМ НЯМА ПЕРАВОДУ

Улюбёнаю справаю рэдактара "Советской Белоруссии" застаецца напісаньне арыгінальных загалоўкаў. У тым, што яны сапраўды арыгінальныя, можаце пераканацца (усе прыклады — з нумару за 21 верасьня): "За деревьями — лес", "И дольше века длится день", "Карта мира расширяется" (пад рубрыкай "Афіцыйна" пра ўручэньне даверчых лістоў амбасадарамі Тайлянду ды Зымбабвэ, а ніжэй у той жа рубрыцы — указ пра выбары 17 сьнежня ў селішчы Баравуха на Віцебшчыне, і ўсё разам у адзінай рамцы). Пракамэнтаваць гэты лес дрэваў можна толькі яшчэ наступным загалоўкам з таго ж нумару "СБ": "Дубам нет перевода".

А праз фота на першай старонцы дасталося ўжо самому Лукашэнку. Уявіце: вялізныя чырвоныя літары "СБ", пад імі рубрыка "На контроле у президента", а ніжэй фатаграфія цялятніцы, якая корміць цяля малаком зь нейкай пляшкі Ды подпіс пад фота: "Пора учить уроки!"

Вой-вой-вой, "СБ" заклікае свайго уладальніка вярнуцца ў жывелагадоўлю!

**Косьця Пернік, Менск**

### АФІЦЫЁЗ

12 верасьня ў Доме літаратара адбылася вечарына, прысьвечаная залатому юбілею паэткі Галіны Каржанеўскай, а заадно і зьяўленьню яе новай кніжкі "Асеньні мёд". Імпрэза мела выгляд адкрытага ўроку, плян якога склала сама юбілярка. "Адказы ля дошкі" Ніла Гілевіча, Алеся Пісьмянкова ды Навума Гальпяровіча былі багатыя на кампліменты. Сп.Гілевіч паставіў Галіну Каржанеўскую ў адзін шэраг з Эўфрасіньняй Полацкай ды Ларысай Геніюш, а Пісьмянкоў урачыста паабяцаў юбілярцы павысіць ганарар за кожны надрукаваны ў "ЛіМе" артыкул. Вершы на вечарыне амаль не гучалі, затое спн.Галіна прасьпявала на сцэне ў кампаніі сяброў маладосьці: "Раз ды разок - чок-чок - чарачка ходзіць кружочкам".

Паэтка, пісьменьніца і "драматургеса" (так яе назвалі прыхільнікі таленту) у сваім сцэнары не прадугледзела, бадай, толькі словаў сп. Глушакова, намесьніка старшыні Дзяржкамітэту па друку: "Невядома, хто больш выйграў - тыя, што набылі пасады і вагу (меліся на ўвазе Казько з Далідовічам), ці тыя, што засталіся чорнарабочымі на ніве паэзіі, як Галіна Каржанеўская".

**Кася М., Менск**

### 65 ДАЛЯРАЎ У ДЗЕНЬ

У кожнага чалавека ёсьць мара, нават калі чалавек гэты — дзяржаўны чыноўнік. Некаторыя, напрыклад, з маленства мараць на свае вочы пабачыць Аўстралію... Абарыгены, эўкаліпты, кенгуру...

За савецкім часам гэткая мара мусіла марай і заставацца, бо "жалезная заслона" была хоць і нябачная, але ж непераадольная. Іншая справа зараз. Набывай візу, купляй квіток і едзь сабе па ўсім сьвеце, хоць бы ў тую самую Аўстралію. Але ж грошы, халера на іх. Хоць і плоцяць нашым чыноўнікам своечасова і не па 20-30 даляраў, як іншым, але ж усё роўна з гэткім заробкам далей Гомеля не заедзеш. А трэба ж яшчэ і пампэрсаў набыць, ідучы на сэлектарную нараду, і мыла лішні кавалак, каб потым пазмываць памыі, што там на галаву выльюць.

Нічога чыноўніку не застаецца, як толькі скарыстацца з палачкі-выручалачкі, якая мае выгляд службовага крэсла. Напрыклад, уліцца ў склад дэлегацыі спартоўцаў, што накіроўваюцца на Аліміпіяду. Але гэта толькі палова справы, бо абарыгены абарыгенамі, а швэндацца па той Аўстраліі зь беларускімі "зайцамі" ў кішэні надта ж сумна.

І тут ізноў прыходзіць на дапамогу крэславыручалка. І зьяўляецца на сьвет пастанова Міністэрства фінансаў аб павелічэньні нормаў камандзіровачных выдаткаў у Сыднэі да 65 амэрыканскіх даляраў (замест ранейшых 40), прычым гэтая норма цяпер вышэйшая за ўсе астатнія.

Паспрабуйце растлумачыць вясковаму трактарысту, маладой настаўніцы альбо раённаму лекару, што, аказваецца, можна атрымліваць па 65 даляраў у дзень. Баюся, што зь першага разу нічога не атрымаецца.

"I have a dream", як той казаў...

**Сыднэй Эўкаліптаў, Менск**

### TV S PRIVYETOM

Ларыса Грынько з АТН не пабаялася зрабіць рэпартаж пра паездку Лукашэнкі ў Воршу пабеларуску, хоць існуе адмысловы загад Чыкіна толькі па-расейску паведамляць пра боса (між іншым, цудоўнае азначэньне для Лукашэнкі — "бос", калі маецца на ўвазе ягонае кіраваньне дзяржаваю, а яшчэ "гол", калі казаць аб прэзыдэнцтве ў нацыянальным алімпійскім камітэце).

Працягвае ціснуць на вушы БТшная расейшчына з Сыднэю. Часта яна ўжо гучыць з нібыта ангельскім акцэнтам: "Privyet, Belarus!"

Уразіў чарговы "шыдзеўр" Юр'я Азаронка. Зь першай сэрыі стала вядома, што гомасэксуалісты — гэта нацыяналісты, і наадварот, прычым у гэтае кола ўваходзяць, паводле Азьвяронка, Аляксандар Фядута і Мікалай Статкевіч. А яшчэ яны ўсе любяць Гітлера ды сьвяткуюць 8 верасьня "нейкую даўно забытую бітву", хоць павінны ў гэты дзень адзначаць пачатак блякады Ленінграду і ўгодкі бітвы Кулікоўскае, дзе "мы, славяне, пабілі ўсялякую нечысьць" (трэба будзе ўзяць пра гэта камэнтар у Урала Рамдракавіча Латыпава).

**Зьміцер Калярадзкі, Менск**

***Зьмяніліся кошты на платныя прыватныя абвесткі:***

- да 20 словаў (тэкставы модуль) - 99 руб.
- звыш 20 словаў (тэкставы модуль) - 126 руб.
- аформленая абвестка - 60 руб. за кв.см.
- аформленая абвестка - памерам больш за 24 кв.см. з улікам кошту арыгінал-макету - ад 81 руб. за 1 кв.см.

За абвесткі пра сямейныя падзеі - зьніжка.

Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў мусяць аплочвацца паводле рэклямных расцэнак для камэрцыйных абвестак.

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на разьліковы рахунак: рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010, Ленінскае аддз. ААТ «Белбізнэсбанк» г. Менску, код 763.

**На зваротным баку бляку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і абавязкова дадаецца сказ: «За рэклямныя паслугі».**

**НАША НІВА КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Залоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

## прыватныя абвесткі

***вагончык***

**Куплю кунг альбо вагончык** сабе на лецішча. Т.: 216-57-52, Кастусь

***вітаньні***

**Вальдэмару і Тацяна Шаховічы! Вацлаве Хведар!** Дзень Настаўніка хутка! Віншуем і зычым посьпехаў усялякіх! Сябры-аднадумцы

**Дарагія мама і тата! Віншую з Днём настаўніка!** Моцнага здароўя і вялікага шчасьця! Вашы сыны і нявесткі

**Дарагая жоначка!** Віншую з надыходзячым Днём Настаўніка! Здароўя, каханьня, посьпехаў. Твой муж-настаўнік

**Андрусю, віншуем з народзінамі!!!** Тваё Сяржук, Вітас ды Віктар

**Сп.Назарука віншую з 20-годзьдзем**. Жадаю табе, зайка, прафіцыту па жыцьці. Спн.Дарашкевіч

**Дранчучка!** Менавіта за тваю памылку ў ДНК я цябе й люблю. "Сама такая" з Горадні

***гатавальня***

**Гатавальню новую** (прылады мэталічныя) нядорага прадаю. Д/з 220089, Менск-89

***Госьціца***

Фальклёр-тэатар "Госьціца" аб'яўляе набор **артыстаў-вакалістаў, моладзі з музычнай адукацыяй** у сьпеўную групу. Т.: 239-68-63

Фальклёр-тэатар "Госьціца" аб'яўляе набор **артыстаў балету, моладзі з харэаграфічнай і спартовай падрыхтоўкай**. Т.: 239-68-63

***грузаперавозкі***

**Šukaju kampanjona ŭ halinie hruzapieravozak**. Т.: 219-30-50, Aleś

***дзіцячы ложак***

Прадам **2-ярусны ложак дзіцячы**. Т.: 239-07-88

***кантакты***

**Чытач "Нашае Нівы"** хоча пазнаёміцца з чытачкай да 25 гадоў. Менск-53, а/с 268

**Belarusians of Australia!** Shall I be able to see a white-red-white flag on TV during the translation of the Olympics? Siaržuk Kasciukovič

**В.Шніпу**. Прачытаў адзін сабака Ваш адказ і заскуголіў. А Граждан нічога не сказаў: ен быў вельмі выхаваны. Aleks

**Ваюшына Таня, усё будзе файна, ты выздароўлівай**. Прыяжджай у госьці. Мы даўно ня бачыліся. Таіса Клепікава

**Гэй, ліцьвіны, падтрымайма "Ліцьвіноў" 29 верасьня а 19-й** у Тэатры юнага гледача!

**Сп.Супрановіч!** Ці ня сорамна рассылаць па ўсёй Беларусі бракаваныя CD і касэты? Лявон Дрозд-Быкоўскі

**Сьвядомыя студэнты ВДУ, вы — ёсьць?** Калі так, то будзьма разам. Сустрэнемся? Першакурсьніца з "Пагоняй"

**Алесю Дзітрыху**. Чуў і чытаю Вашыя вершы. Прапаную ліставацца. 220074, Менск-74, а/с 208

**Шкаляры, ліцэісты, гімназісты Гарадзеншчыны!** Калі хочаце выпускаць сваю газэтку на беларускай мове, лістуйце: 230009, Гародня, а/с 30, "Ліцэйплюс", yunela@mail.ru

**Спадару Анатоль зь Віцебску!** Згубіў Ваш адрас. Адгукніцеся! Віталь Станішэўскі

**Окрыўсу**. Хто можа — піша, хто ня можа — шукае памылкі ў іншых. Старыкевіч

***кнігі, пэрыёдыкі***

**Куплю "Энцыкляпэдыю літаратуры і мастацтва Беларусі"**, тамы 1—3 і 5. Т.: 283-27-34

**Прадам танна часопісы** (60-70-80 гг.) "Юность", "Рабочая Смена", "Ровесник", "Юный натуралист", "Наука и жизнь" ды інш. Т.: 221-21-81

Куплю 1, 2 т. **Барадуліна**, 1, 3—5 т зборy твораў **Караткевіча**. Гомельская вобл., Петрыкаў, Талстога, 22. Т.: (02350) 5-12-66

Набуду **ARCHE "Постмадэрнізм", "Кабеты"**. Т.: 22-35-38 (у Віцебску), Вольга

Набуду "**Энцыкляпэдыю гісторыі Беларусі**", т 1, 3, 4. Т.: 283-29-39 (увечары), Ірына

**Прадам кнігі**: Л.Геніюш "Споведзь", В.Быкаў "Кар'ер", Вестник Европы (т.6), 1871 г. Т.: 258-43-54

**Беларуска-расейскі слоўнік М.Байкова і С.Некрашэвіча** можна замовіць праз т.: 258-43-54

**Прадам слоўнікі**: Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны, Слоўнік беларускай мовы Насовіча, 1983. Т.: 258-43-54

**Прадам: энцыкляпэдычны даведнік** "Беларусь у Вялікай Айчыннай Вайне", "Энцыкляпэдыю прыроды Беларусі" — 5 т. Т.: 258-43-54

**Прадам зборы твораў** І.Мележа (у 10 тт.) — 1979-1985 гг., К.Чорнага ў 8 тт. (1972-1975 гг.) Т.: 258-43-54

Прадам: **Л.Геніюш "Споведзь", А.Калубовіч "Крокі гісторыі", Я.Станкевіч "Некаторыя праўніцкія тэрміны беларускія"** (Нью-Ёрк, 1953 г. ). Т.: 258-43-54

**"Мэтрыку ВКЛ", "Разгром нацыянальнага руху", "Трагедыю на Нямізе"** ды інш. кнігі, аўдыё-відэакасэты шукайце на выставе ТБМ (Румянцава, 13, 10.00—19.00, апроч выходных)

**Зборнік вершаў "Настальгія па вечнасьці"** магілёўца Юрася Півунова ў Менску прадаецца ў сядзібе ТБМ

Паведамце, калі ласка, дзе, як і якім коштам замовіць **"Выбраныя творы" Л.Геніюш і "Сьцяну" Быкава**. 247940, Петрыкаў, Талстога, 22. Т: (02350) 5-12-66

**Прадам збор твораў Алеся Адамовіча** на расейскай мове ў 4-х тамах. Т.: (у Маладэчне) 7-58-29

***музыка, відэа***

**Прадам старыя грамплыты на 78 аб/хвіл**. Т.: (у Маладэчне) 7-58-29

**Запісы беларускіх народных песень на а/касэтах і CD** у выкананьні Міхася Пацука і анс. "Вясельле". Т.: 260-74-96

**Зьнікі на відэа "Ісус", "Адважнае сэрца", "Пяты элемэнт"!** Пошта: 220107, а/с 150, у Менску: 1) БНФ; 2) ТБМ; 3) шапік "Карона" (вул. Б.Хмяльніцкага)

**Мастацкія відэафільмы ў Горадні**: 22-34-68 (Андрэй) або вул. К.Маркса 11

**Па пытаньнях набыцьця квіткоў на "Вольныя танцы"** зьвяртацца да Віталя Станішэўскага ў панядзелак і чацьвер а 19-й гадзіне на Ўправе БНФ (Варвашэні 8)

**Беларускія аўдыёкасэты і CD ў Менску**: 1) ТБМ (Румянцава 13); 2) шапік "Карона" (Сурганава/Коласа); 3) кніжная выстава за к/з "Менск" (ст.м "Першамайская"); 4) пераход мэтро "Інстытут культуры"; 5) галерэя "Мастацтва" (ст.м. "Пл. Я.Коласа")

***net***

**Сайт надзвычайнай увагі** — http://www.recha.cjb.net — весткавая агенцыя "Правае Рэха". Рупар кансэрватыўнае рэвалюцыі

***прадаю***

Прадам **4-блёчную сэкцыю**, акустычную сыстэму "Арбіта-35".Т.: 239-07-88

***праца***

**Шукаю бугальтара** на невялікі аб'ем працы. Т.: 236-50-76

Фальклёр-тэатру "Госьціца" на сталую працу патрабуюцца: **акампаніятар (фартэпіяна), адміністратар**. Т.: 239-68-63

**Студэнтка пэдунівэрсытэту дагледзіць дзеці, жывёлу і хату.** Гавару па-беларуску. Т: 223-98-75, Ілона

**Нямецкая мова**. Рэпэтытарскія паслугі для дзяцей, школьнікаў ды ліцэістаў. Т.: 283-54-25 (калі ласка, да 21.00)

***эспэранта***

**Міжнародная мова эспэранта** Усё геніяльнае проста! Ад Вас — капэрта са зв/а+купон б/а. А/с 9, 246008, Гомель-8

Прадаюцца беларускамоўныя **шчанюкі нямецкай аўчаркі.** Нядорага. Т.: 255-56-16

... не стыдаюся Эвангельля Хрыстовага, бо сіла Божая есьць на збаўленьне кожнаму, хто ведае . Рымл. 1:16
**БЕЛАРУСКАЯ ЭВАНГЕЛЬСКАЯ ЦАРКВА**
Набажэнства штонядзелі ў Менску а 17-й гадзіне вул Любімава 21-56, тэл . 279-71-31, 270-89-87
Штонядзелі ў Асіповічах а 10-й гадзіне вул Леніна 40, тэл 20-840

*Прадам*
**ЗБОР ТВОРАЎ**
**УЛАДЗІМЕРА КАРАТКЕВІЧА ( 9 КНІГ )**
*Т.: 258-43-54, Ян*

## паштовая скрынка

**Косьцю П. зь Менску.** Каця Пранік – гэта ня Павал Якубовіч, а Людміла Масьлюкова.

**Юр'ю А. з Варнянаў.** У Беларусі шмат абліччаў. І Вы – беларус, і яны – беларусы. Само Ваша прозьвішча, сама назва мястэчка, дзе Вы жывяце, — зарука беларускасьці. Спазнаваць паціху сябе і свой край, жыць годна і рабіць невялікія практычныя справы дзеля незалежнасьці і справядлівасьці цяпер важней, чым пераконваць глухіх і паказваць дарогу сьляпым.

"А дождж усё ліе і ліе..." – гучыць як верш.

**Уладзімеру А. з Баранавічаў.** Запрасеце – прыедзем.

**С.М. зь Берасьця.** Мала пра Беларусь і асабістага. А Вы самі чаму сталі скінгедам?

**Л.Б. з Марыямпалю.** Вашу просьбу наконт кнігі М.Ермаловіча перадаем выдаўцам.

Адрас Беларускага анкалягічнага цэнтру ў Бараўлянах: пас.Лясны, 223052, Менскі р-н, НДІ анкалёгіі і мэдычнай радыялёгіі імя М.Аляксандрава (тэл. 375-17-2697860, 2696301, даведкі; 2697901, рэгістрацыя).

**Вангору В. з Маладэчна.** Сабакам ганарару ня плоцім.

**НАША НІВА**
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

| | |
|---|---|
| кіраўнік праекту | Сяргей Дубавец |
| в.а галоўнага рэдактара | Андрэй Дынько |
| заснавальнік | Павал Жук |
| карэктарка | Вялета Кавалёва |
| сакратарка рэдакцыі | Аляксандра Макавік |
| стыльрэдактар | Мікола Раманоўскі |
| дызайн-макет | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | рэдакцыя газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017 213-32-32)**
**E-mail: niva@user.unibel.by**
**http://members.nbci.com/nasa_niva/**


6 палос фарматам А2. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр.газэты «Известия», д. 8, кв. 173.

Наклад 3453.

Нумар падпісаны ў друк 24.09.2000.

Замова № 4967.

Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас Менск, Залатая Горка, 7/9